


ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ БССР

## Зьмест.

Стар.

*Зьмена зьмену рыхтуе сабе:*
*Піонэр—комсамол—КПБ.*

*Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!*

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКОМАСЬВЕТЫ
БССР

РЭДАКЦЫЯ:
Менск, Пляц Волі, Наркомасьветы.

№ 2. СТУДЗЕНЬ 1925 г.



## У Ленінскі тыдзень—піонэры-ленінцы яшчэ шчыльней згуртуюцца вакол заветаў Ільліча.



Наша організацыя юных піонэраў—**організацыя маладых Ленінцаў.** Усе дзеці працоўных нашага саюзу організаваліся і організуюцца, каб гуртам маглі замяніць памёршага правадыра працоўных—Леніна.

Мы ўсе далі свой піонэрскі зарок выпаўніць заветы нашага дарагога дзеда.

І мы іх выпаўняем. Ужо год, як выпаўняем. Мы ідом за комсамолам. Чырвоныя гальштукі—чырвоная комсамольская зьмена. У Ленінскі тыдзень комсамол праверыць стойкасьць свае зьмены—піонэраў. Комсамол бярэ ад нас самых лепшых і сталейшых нашых сяброў, якія сталі ўжо стойкімі, добра загартаванымі Ленінцамі. Такім загартаваным Ленінцам павінен быць кожны піонэр. А для таго, каб быць гэткім, трэба многа папрацаваць, многа падумаць.

У Ленінскі тыдзень мы пераглядзім сваё Ленінскае жыцьцё. Успомнім свае асноўныя Ленінскія законы і заветы. Прадумаем харашэнька, ці акуратна мы выпаўняем заветы Ільліча. А іх у нас многа. Ільліч заўсёды гаварыў: пабудаваць колектыўнае жыцьцё зможа толькі чырвоная зьмена. Мы гэта добра ведаем. Мы ў сваёй працы і жыцьці ідом да гэтага. Але па дарозе ў нас шмат перашкод. Наша справа: змагацца і перамагчы гэтыя перашкоды.

Сягоньня, правяраючы сябе, мы зможам горда заявіць усім працоўным: мы гатовы! Мы выканаем усё тое, што даручыў нам Ленін!

# Нашы правадыры.

У студзені месяцы адбыліся два вялікія здарэньні: памёр летась сусьветны правадыр пролетарыяту т. Ленін і забіты ў 1919 г. буржуазіяй правадыры нямецкага пролетарыяту Карл Лібкнехт і Роза Люксембург. Аб жыцьці гэтых вялікіх і дарагіх для нас людзей мы і пагутарым.

### Жыцьцё Леніна.

Уладзімір Ільліч Ленін (Ульянаў) радзіўся ў 1870 г. у горадзе Сімбірску. Сям'я бацькі Леніна складалася з 8 душ. Бацька Леніна служыў на Волзе дырэктарам народных школ.

17 годнім юнаком Ільліч скончыў гімназію. Вучыўся ў ёй вельмі добра і за гэта атрымаў залатую мэдаль.




Ленін у 16 годнім узросьце.

У 1887 г., калі Ленін скончыў гімназію, павесілі яго брата Алеся за замеры зьвесьці з твару зямлі цара Аляксандру III. Гэты момант стаў паваротным у жыцьці Ул. Ільліча Леніна. Ён сур'ёзна задумаўся над жыцьцём беднага народу. Сьмерць брата, які йшоў за справу народу, запаліла помсту ў сэрцы Леніна. З гэтага часу Ленін становіцца рэволюцыянэрам.

Па сканчэньні гімназіі Ленін паступае ва Унівэрсытэт. Але правучыўся там толькі чатыры месяцы. Яго выгналі за рэволюцыйнасьць.

Ільліч не бядуе. Ільліч вучыцца самастойна.

Праз чатыры гады Ул. І. самастойна падрыхтаваўся, каб здаць экзамін на юрыста.

Увесь час Ул. Ільліч, дзе-б ён ня быў, працуе на карысьць народу. Ён уваходзіць у розныя марксіцкія гурткі і дасканала пачаў вывучваць К. Маркса.

Увосень 1893 г. Ул. І. пераяжджае ў Піцер, дзе організуе рабочых заводаў у марксіцкія гурткі. Сярод рабочых і сялян Петраграду (цяпер Ленінграду) Ільліч становіцца досыць вядомым.

У хуткім часе Ул. І. сумесна з другімі марксістамі (Плеханаў, Аксельрод, Засуліч) організаваў „Саюз барацьбы за вызваленьне рабочай клясы“.

Саюз гэты хутка разьвярнуў сваю працу. Да яго сталі сьцякацца шырокія гушчы рабочых. Але царская ўлада не дала магчымасьці дакончыць працу, якую распачаў Саюз. У канцы 1895 г. саюз быў арыштаваны і распушчаны. Ул. І. папаў у турму.

У турме Ільліч распачаў вялікую навуковую працу. Напісаў за гэты час многа каштоўных кніжак.

Пасьля сканчэньня высылкі Ул. І. вяртаецца ізноў у Петраград. Ізноў ён распачынае шырока рэволюцыйную працу. Але пільнае сачэньне жандармерыі за Ул. І. прымусіла яго выехаць за межы.

У Швэйцарыі Ленін пачаў выдаваць соцыял-дэмократычную газэту „Іскра“. Газэта „Іскра“ прынесла вялікую карысьць працоўным. Яна аб'яднала рэволюцыйныя думкі пролетарыяту.

Ул. І. хутка пачаў расходзіцца з тымі соцыялдэмократамі, якія адарваліся ад народных гушчаў і йшлі на згоду з буржуазіяй.

На 2-ім Зьездзе Расійскай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай Партыі ў 1903 г. Ленін выступіў супроць згодніцкай політыкі. У выніку гэтага партыя была расколата на дзьве часткі: бальшавікоў і меншавікоў. На чале бальшавікоў стаў Ленін. На зьезьдзе бальшавікоў у 1905 г. Ленін моцна агітаваў за неабходнасьць выступленьня рабочых і сялян супроць буржуазіі.

Хутка пасьля гэтага Зьезду рэволюцыйныя падзеі разьвярнуліся вельмі шырока. Як вынік у 1905 г. адбылася першая расійская рэволюцыя. Рэволюцыя была няўдачная. Пролетарыят яшчэ ня быў стала організаваным.

Пасьля такой няўдачы ў 1905 г. Ул. І. ізноў прышлося ехаць за межы.

У 1914 г. Ленін з таварышамі: Зіноўевым, Карлам Лібкнехтам, Розай Люксембург і інш. выступаюць супроць буржуазнай вайны.

Пасьля Лютаўскай рэволюцыі Ул. І. зьвяртаецца ў Расію, дзе падрыхтоўвае супраўдную пролетарскую рэволюцыю. Такая рэволюцыя адбылася ў Кастрычніку 1917 г. Ул. І. сам кіраваў паўстаньнем працоўных. З першых дзён рэволюцыі Ленін застаецца старшынёю Народных Камісараў.

Многа працы было ў Ільліча пакуль ён прывёў у толк і аформіў нашу рэволюцыю. Працаваў Ільліч не шкадуючы свайго здароўя. Апрача гэтага ворагі яшчэ паранілі яго ў 1918 г.

Упартая праца на працягу ўсяго свайго жыцьця падламляе сілы Ільліча. 21 студзеня 1924 г. празваніў тэлефон па ўсяму сьвету: Леніна няма.

Ул. Ільліч памёр..., але памяць аб ім будзе вечна жыць у шматміліённых сэрцах Ленінцаў. Ленін заставіў пасьля сябе сваё дзіцё—партыю. Ленін заставіў комсамол і піонэраў, якія дакончаць справу Леніна.

Ленін пакладаў на моладзь вялікую спадзею. Мы, піонэры, гэтую спадзею свайго дзеда апраўдаем.

## Карл Лібкнехт.

Нямецкі рэвалюцыянэр-комуністы. Яго рэвалюцыйная дзейнасьць асабліва выяўляецца з 1914 г. У 1914 годзе К. Лібкнехт адзін з усёй соцыял-демократычнай партыі нямеччыны паўстае супроць буржуазнай вайны. Але ніхто больш з гэтай партыі яго не-



падтрымаў. Тады К. Лібкнехт складае організацыю моладзі „Спартак“. Гэта організацыя зразу-ж становіцца на комуністычны шлях. Пазьней з „Спартака“ заснавалася Комуністычная партыя нямеччыны.

За сваю рэволюцыйную дзейнасьць і за выступленьне супроць вайны К. Лібкнехт пападае ў турму. З турмы вызваліла яго нямецкая рэволюцыя ў 1818 г. Але рэволюцыі ў Нямеччыне не давялося скончыць. Моцная была яшчэ буржуазія. За буржуазіяй пайшлі меншавікі. Меншавікі толькі на словах дапамагаюць рабочым і сялянам, а калі прыдзецца да справы, яны ўсе кідаюць рабочых.



Мейсца у Цірганцене, (г. Бэрлін), дзе быу забіты К. Лібкнехт

У 1919 г. 15 студзеня К. Лібкнехт разам з Розай Люксембург, нямецкай рэволюцыянэркай, былі забіты нямецкімі меншавікамі.




Маўзалей Леніна.

# Ленін і Сьцёпка.

Тав. Ленін, у якога ніколі ня было сваіх дзяцей, вельмі любіў дзяцей. Мне Надзя Канстантынаўна расказвала, як Ільліч прывязаўся ў высылцы да Мішкі—хлопчыка аднаго з яго таварышоў, і як цяжка яму было, калі бацька ня даў згоды аддаць хлопчыка Леніным, калі яны выяжджалі з высылкі. Мне прышлося наглядаць каханьне Ул. І. да майго сынка—Сьцёпкі. Калі Сьцёпка радзіўся, Ул. Ільліч доўга на яго прыглядаўся і ўсё пытаў, чаму ён плача. Калі Сьцёпа пачаў падрастаць, хадзіць і гутарыць, між ім і Ул. І. заснаваліся самыя блізкія адносіны. Ул. І. бурна, весела з захапленьнем гуляў з Сьцёпам. Ён даставаў заўсёды Сьцёпаў мяч з пад ложку, насіў Сьцёпу на плячох, бегаў з ім і выконваў усе запатрабаваньні Сьцёпы. Некаторы раз Ул. І. і Сьцёпа пераварачвалі ўсё дагары ў пакоі; калі станавілася вельмі шумна, я прабавала іх суняць, але Ільліч мне адказваў: „Не мяшай, мы гуляем“.

Аднаго разу ішлі мы з Ул. І. па дарозе да іх дому. Сьцёпа бег наперадзе нас, Ул. І. пільна ўзіраўся на Сьцёпу і выказаў: „Эх, шкада, што ў нас няма такога Сьцёпы!“

Ул. І. любіў ня толькі Сьцёпу, але й дзяцей наагул. Гэтаму я даведалася ў 1921 годзе—у год галаду.

Ленінграду (тады Петраграду) вельмі скарацілі лік дзіцячых пайкоў. Я езьдзіла ў Маскву, клапацілася, абівала парогі, але дабаўкі пайкоў не атрымала. Я, ведаючы каханьне т. Леніна да дзяцей, накіравалася да яго. Ён мяне прыняў і папрасіў зрабіць сталы даклад аб нашай піцерскай працы сярод дзяцей. Выслухаў ён мяне з звычайнаю глыбокаю ўвагаю, даў некалькі пытаньняў і тут-жа пры мне пачаў вызываць па тэлефону Наркомпрод, якому даў загад выдаць дзецям Петраграду з запасных фондаў 5000 пайкоў.

*З. Ліліна.*

# Як мы ехалі на разьвітаньне з Леніным.

Мне было вельмі сумна і цяжка. Я ведала, што я пры ўсіх заплачу. Гэтага я вельмі не хацела і ня пашла да дзяцей, мне хацелася ўбачыць Леніна.

Настаў вечар. Заходжу я да старэйшых сябровак. Адна з іх падходзіць да мяне і кажа:

— Паедзем з намі на магілу Ільліча.

— У мяне няма грошай.

Дзяўчаткі кажуць:

— У нас таксама няма грошай. Паедзем бяз білета.

Я дала сваю згоду. Калі ўсё было готова, мы паехалі да станцыі.

Поезд спазьніўся на 3 гадзіны і мы добра замерзьлі чакаючы.

Селі мы ўсе ў адзін вагон.

Толькі мы селі і пачалі сваю гутарку, як убягаюць два кандуктары. Мы спужаліся і пабеглі.

Потым парашылі, што ўсё роўна не ўцяком, і застанавіліся.

Кандуктар падышоў і запытаў білетаў. Мы адказалі, што білетаў няма. Кандуктар тады запытаў:

— Куды вы едзеце?

— Едзем разьвітацца з Леніным,—адказалі мы. Кандуктар пайшоў, а мы засталіся ў вагоне.

*Алеся Прыходзька.*

## На сьмерць Леніна.

**Чырвоныя штандары
Чорнымі йстужкамі пакрытыя...
Сягоньня уся СССР.
Горам вялікім забітая.**

**Яснае сонца цёмнаю хмарай закрытае
І яно гэтым горам забітае;
І яно гора працоўных знае,
Аплакаць Ільліча памагае.**

**Увесь сьвет сумна, панура глядзіць,
Бы той, хто сягоньня памёр,
Павінен цэлыя соткі вякоў
Для люду працоўнага жыць.**

**Сягоньня ўвесь сьвет засмучаны,
Штандары дадолу апушчаны.
А ўзаўтра яны высока ўзаўюцца;
Клічам заветаў яго панясуцца!**

**Піонэр Я. ГЭРМАНОВІЧ.**



**ЛЕНІН МОЛАДЗІ:—„Мала таго, што вы павінны аб'яднаць усе свае сілы, каб падтрымаць рабоча-сялянскую ўладу. Гэта вы павінны зрабіць. Але гэтага мала. Вы павінны пабудаваць комуністычную грамаду“.**

# Калі памёр Ленін.

(Апавяданьне).

I.

Янка—піонэр атраду імя т. Будзённага. У Янкі на грудзёх чырвоны гальштук.

Янка—актывіст: павадыр зьвяна, старшыня форпосту ў школе. Увесь дзень кіпіць праца ў Янкі.

— Схуднеў увесь, бляды...—кажа матка—нізенькая худая бабулька.

Бацька Янкі—высокі, задумёны рабочы—гарбар. І вочы ў яго чорныя шкураныя, і на плячох сьвітка з шкуры, і натура—моцная, жылаватая—увесь шкураны!..

У 1917 г. бацька быў добрым байцом—рэволюцыянэрам. Ён організоўваў на заводзе забастоўкі, а ў партыю ня ўступіў...—Чаму? А хто яго ведае—ня кажа...

Янку сорамна за бацьку. Ваюе з ім Янка, апавядае аб піонэрах, комсамольцах—агітуе.

II.

Неяк увечары, калі белыя асьнежанныя грудзі стрэхаў цемра ўкрыла шэраю хусткаю і колкі мароз шчыпаў за цела—у горад прыляцела страшная вестка:

**—Ленін памёр...**

Янка даведаўся аб гэтым у клюбе. Быў там на вечары, ахвярованым 9-аму студзеню 1905 г.

Зоська—павадырка атраду, стаяла ў сярэдзіне таўпы і блядая, хмурая з прыкметнымі сьлязамі на вачох—чытала сьпешны выпуск газэты:

**„Урадавае паведамленьне“.**

21-га студзеня а 6 гадзіне 50 хвілін вечару памёр у Горках, блізка ля Масквы, Уладзімір Ільліч Ленін...

І раптам адчуў Янка ў сваім сэрцы, што няма Леніна... няма таго Леніна, якога ён кожны дзень бачыць у „кутку Леніна“ ў сваім зьвяне.

— А як цяпер партыя будзе жыць бяз Леніна?—падумаў Янка. Але тут-жа парашыў: нічога, Ленін яе навучыў.

Спэктакль у клюбе быў сарваны. Але не разыходзіліся. Усе гутарылі аб Леніну.

Янка таксама прысеў. Шчыра прыслухоўваўся ён да розных галасоў. Яшчэ больш уведаў ён праз Леніна на гэтым вечары; яшчэ болей вырасла любоў да яго.

— Я буду йсьці па шляху Леніна—выразна паўстала ў сэрцы пастанова.

III.

А ўначы ня спалася Янку. Ён ляжаў і думаў аб Леніну. Страшна хацелася яму гутарыць з кім нібудзь аб Леніну.

Бацька хроп на ложку. Утаміла вестка старога. Шкада стала Янку і бацькі. А гэта яшчэ больш зьблізіла яго з бацькам.

Ціханька шуснуў ложак і сын прылёг да бацькі...

— Та... та-та... сьпіш?..

— А, што?...

— А як... бяз Леніна?...

— Вядома, сынок, цяжэй будзе... Я думаў аб гэтым...

— Эх, Янка, які быў гэты Ленін!.. За рабочых і сялян ішоў. Усё жыцьцё ім аддаў...

— Усё жыцьцё сваё прадумаў я сягоньня і парашыў: дрэнна зрабіў, што ў партыю не запісаўся.

— А цяпер?—запытаўся Янка, і ў грудёх мільганула вясёлая спадзея...

— Цяпер уваходжу—абавязкова!

IV.

У далёкай Маскве хавалі Леніна.

І тут—таксама.

Быў 30-цёх градусны мароз, вецер круціў стаўбы сьнегу. З раніцы сьцякаліся розныя організацыі на плошчу з песьнямі:

— Памёр ты сягоньня
На слаўным пасту...
Ты вёў на змаганьне міліёны...

Сьцягі, сьцягі—чорна-чырвоныя.

Туга—бязьмежная. Туга міліёнаў, якія згубілі свайго правадыра.

Але туга ня была адчаем. Рабочыя і сяляне, комуністы, комсамольцы, піонэры яшчэ больш зьядналіся, каб давесьці да канца тое, што пачаў Ленін.

Піонэраў на дэмонстрацыю ня ўзялі—надта марозна было. Але Янка пайшоў разам з бацькам, з рабочымі гарбарамі.

У чатыры гадзіны крычалі гудкі, стралялі з гарматаў і сьцягі схілілі свае чорныя галовы...

Ільліча апушчалі ў магілу.

* *
*

Праз дзьве нядзелі па Ленінскаму прызыву бацька Янкі ўступіў у партыю. І Янка і бацька—Ленінцы. Абодва яны ідуць па шляху Леніна.

*Міхась.*

# Як працуюць вясковыя комсамольцы ў Заходняй Беларусі.

* * *

Цяжка, страшэнна цяжка жывецца сялянам пад уладаю паноў. Стогнуць нашы вёскі ад нагаек і катаваньняў. Аказацца селяніну няможна. Калі пойдзеш скардзіцца да войта, то або нагаек дастанеш, або ў турму засадзяць.

Налогі бяруцца з сялян нязвычайныя. Улада з свайго боку нічога селяніну не дае. Не дае лесу на хату, не дае дроў, зачыняюцца нашы беларускія школы... З селянінам лічыцца ўлада, як з сабакам.

Такое становішча абурвае сялян супроць паноў. Асабліва кіпіць гэта злосьць у маладняцкіх грудзёх. Моладзь ведае, што на ёй ляжыць вялікі абавязак. Моладзь гуртуецца дзеля барацьбы ў ячэйкі. Толькі арганізавана можна весьці працу і гатовіць сьмерць беламу ожэлу.

* * *

Першым арганізатарам комуністычнае моладзі ў нашай воласьці быў т. Гр. Гэты комсамолец вучыўся ў Вільні. Сярод сялян ён карыстаўся вялікай пашанай. Яго праца была вядома ва ўсёй воласьці. І, калі прышлося сялянам падаваць свае галасы пры перавыбары сэйму, усе яны галасавалі за № 16. Тут вялікі уплыў быў т. Гр.

Наша валасная ячэйка комсамолу хутка зьвязалася з комуністычнымі арганізацыямі м. Вільні. Праца пачала памаленьку наладжвацца.

Вясною 1923 г. т. Гр. прывёз з м. Вільны многа розных беларускіх кніжак. Гэтыя кніжкі мы пасталіся распаўсюджыць па ўсёй воласьці. Кніжкі сялянамі і моладзьдзю чыталіся наперабой. Хутка да т. Гр. пачала сьцякацца ўся вясковая моладзь. Кожнаму цікава было ад яго самога пачуць сваё роднае слова і тое, што робіцца на белым сьвеце.

Гэткім-жа чынам папаў і я да т. Гр. Праз гэтага таварыша я стаў шчырым беларусам. У яго я браў многа розных кніжак і газэт. Чытаў усё з вялікім захапленьнем. А абурэньне з кожным днём нарастала й нарастала ў маім сэрцы. Я не здавальваўся аднэй чыткаю літаратуры і распаўсюджваньнем яе сярод сялян. Хацелася шырэй і шырэй разьняць працу.

Хутка мы надумалі зрабіць дзе-небудзь у вёсцы свой тэатр. Нам хацелася, як найясьней паказаць селяніну яго дрэннае і цяжкае жыцьцё пад уладай паноў. Хацелася нам, каб усе сталі сьвядомымі барацьбітамі за свае правы.

Было ўжо ўсё падрыхтавана да спэктаклю. Але без дазволу павятовага старасты гэта зрабіць няможна. А павятовы староста г. Нясьвіжу вынес „дазвол“ такі:

— Ніякіх беларускіх п‘ес у маім павеце ставіць няможна!

— Нічога ня будзе, калі працаваць адчынена...— сказаў мне т. Гр., як зьвярнуўся з павету.



Першы наш плян праваліўся. Яшчэ чуць самі не папалі ў турму, што пыталі дазволу. З гэтага часу мы пачалі працаваць у падпольлі. ЦК КПЗБ даў нам плян, па якім мы павінны былі працаваць.

Пачаткам падпольнай працы было ў нас—зьбіраньне ахвяр для беларускіх бяспрытульных дзетак і для дзяцей беларускага прытулку. Гэта праца досыць зацікавіла ўсё сялянства. Сялянства добра разумела, куды яно шле свае ахвяры. Поруч з гэтым расла і сьвядомасьць сялян. Расло таксама і абурэньне на паноў.

* * *

Наша ячэйка і аўтарытэт яе расьлі хутка. Ужо ўвесну мінулага году мы налічвалі 50 сяброў. Пачалі адбывацца конфэрэнцыі сялян сумесна з ячэйкаю. Зьбіраліся мы ў лесе, у балоце.

Вясною мы прачулі, што да нас прыедзе к першаму маю беларускі пасол Рагуля. Чакалі з нецярплівасьцю. Але Рагуля да нас ня прыехаў. Праводзілі мы сьвята адны. Правялі, праўда, добра, але з гэтага дню даведаліся аб нас жандары...

Хутка ўся справа пашла ў другі бок. Першым арыштавалі т. П—сік. З турмы яму ўдалося ўцячы ў Савецкую Беларусь. З Вільняю сувязь наша была парвана, бо хто ня езьдзіў, усіх лавілі жандары. Нават т. Гр. і той ня ўхаваўся... злавілі...

Цяжкі час настаў для нашага жыцьця. Азірайся на кожным кроку. Нікуды ня ткнесься, бо зловяць.

Увосень на маёй кватэры адбыўся вобыск. Палякі знайшлі шмат рознай комуністычнай літаратуры. Бяда... Чуць сам я выратаваўся з-пад кіпцюроў. Інакшага выйсьця для мяне ня было, як уцякаць у Савецкую Беларусь.

Але ўся гэта панская рэакцыя выклікала яшчэ большае абурэньне сярод сялян і моладзі. Рэвалюцыйны настрой бушуе вогненым морам. Прыдзе час і гэтае мора затопіць і спаліць чорную панскую навалу. Кожную хвіліну ўзьняты вочы працоўных на ўсход, адкуль радасна ўзьвіваецца чырвоная звязда. Ніякія турмы, межы ня змогуць разьяднаць працоўных.

*Комсамолец Заходняй Беларусі.*

**На шлях вызваленьня, які паказаў наш правадыр Ільліч—уся працоўная Моладзь!**

# БЯСПРЫТУЛЬНЫ.

**(Апавяданьне).**

Бацька сканаў ужо два гады таму назад. Маці на гэтым тыдні згарнула свае сухія рукі. Застаўся Максім, як ёсьць сіратою. Няма да каго прыхіліцца, няма каму свайго жалю перадаць. Бедны хлопец Максім!.. Ох, як бедны!.. Хоць бы родныя былі!? Усё свае, як кажуць, людзі. Усё-б хоць вокам хто да кінуў. А гаспадар дому, дзе жылі бацькі Максіма, казаў ужо:

— Чаго-ж ты сядзець тут будзеш?!

— Куды-ж мне йсьці адгэтуль?—адказаў Максім. Сумна, маркотна стала хлопчыку. А ў грудзёх было горача, горача...

— Вон! куды хочаш!—Накрычаў на Максіма гаспадар.

Далей—болей і Максім апынуўся на вуліцы. На вуліцы... На голай брукаванай вуліцы, бяз хаты, без бацькоў.

Першы дзень працягаўся ён па Савецкай. А прышоў вечар, Максім забіўся неяк у кіно, ды там і застаўся.

Назаўтра агледзяўся сторож і выкінуў, як сабачку, Максіма. Але мала яшчэ, што выкінуў! Дзяркачом выскраб патыліцу, як каменьня на вуліцы.

Навокал Максіма шнуруюць тысячы людзей. Усе кудысь сьпяшаюцца, бягуць. Ніхто не загляне на гэту маленькую мурашку—дзіцянё. Часамі пападзецца Максім каму небудзь пад ногі, пакоцяць яго, пераступяць.

Увесь замучаны, зморany за дзень прыбіваецца ён дзе небудзь да спакойнага кутка ды й начуе так.

Яду сабе здабываў Максім парознаму. Бывае, дасьць хто небудзь агрызак у растаране, гэтым ён і пражыве дзень. А то проста, як з рукі, сьцягне... Другой рады не дасі.

Многа было дзён і такіх, у якія жыў Максім аднаю вадою. Гора. Бяда. Сьлёзы. Малы яшчэ Максім. Нават дзесяці няма.

— Чаму яны памерлі? Чаго ім не хапала?—думаў Максім аб бацькох.

І міжвольна прыпаміналіся Максіму матчыны словы:

— Памру, сынок, і я хутка...

Але не, сынок, ня бойся, я жартую...

Не пажартавала... Кашляла, кашляла і—памерла. І ўсяго з кашлю памерла. З кашлю памёр і бацька. А доўга пракашляў бацька! Як зьвярнуўся з польскае турмы.

Максім, праўда, ня помніць добра таго часу, калі бацьку яго схапілі палякі. Схапілі і цэлых два гады ня было. І толькі пазалетась зьвярнуўся. Уцек праз мяжу. Аб усім гэтым Максім чуў толькі ад бацькі.

Яшчэ прыпамінаў Максім тую фабрыку, дзе працавалі яго бацькі. Часамі і цяпер ён забяжыць туды. Але ўсё для Максіма там пуста, глуха. Гудуць, ляпаюць, выюць, нібы ваўкі, машыны. Жыцьцё на фабрыцы зьліваецца ў адзін дзікі крык, гам. Трашчаць шасьцерні, стукаюць станкі. Нічога ня ўловіць Максім у гэтай завірусе.

Няма тут яго таткі... Няма да каго падбегчы, пасьмяяцца, падурэць.

Толькі адзін дзядзька быў збольшага знаёмы Максіму. Страшны гэты дзядзька. Запэцканы, запылены, як цыган. І Максім баяўся яго.

Аднаго разу, калі бег Максім ля верстака гэтага дзядзькі, той прамовіў да Максіма:

— Ведаеш, хлопча, што?!

— А што, дзядзячка?—Максім застанавіўся. Падняў ён свае чорныя вочкі ўгору і весела заблiскаў імі, нібы вугольчыкамі.

— Я ўжо думаў аб табе, я ведаю, што ты сірата... Ты пойдзеш на службу?

— Куды на службу?

— Да абы куды, ці-ж ня ўсё роўна?

— А там есьці будуць даваць, дзядзячка?

— Зразумела, будуць,—адказаў дзядзька.

Максім толькі цяпер адчуў у сабе нейкую прыхільнасьць да гэтага дзядзькі. Моцна, моцна хацелася абняць і пацалаваць гэтага мілага дзядзьку.

* * *

Служыць Максім у гаспадара. Гаспадар яго таргуе ірыскамі. І Максіму з першых-жа дзён далі пасаду—прадаваць ірыскі.

Бегаў Максім з вуліцы на вуліцу, крычаў, лузаўся з скуры.

— Ірыскі, ірыскі!.. Па капейцы штука, па капейцы штука... Арэхавы, арэхавыя...

Навокал Максіма кіпучае мора людзей. Гром, дрыжэньне аўтамабіляў, аўтабусаў, хурманак. Але Максім ні на што не зварачвае ўвагі. Ён толькі й жыве гэтымі ірыскамі. Кожнаму тоўстапузаму нэпачу заглядвае ласкава ў вочы Максім. Кожнаму перабяжыць, як

заяц, дарогу. Хочацца, каб кожны яго прыкмеціў, каб купіў у яго ірыску.

Па ўмове з гаспадаром Максім за кожныя сто праданых ірысак будзе мець 5 сабе. Гэтыя 5 ён прадасьць і дастане пяць капеек. За пяць капеек і пражывае Максім увесь дзень. А бывалі выпадкі, калі губляў Максім капеек 5--10 і тады ўсе заработкі прападалі.

Жыцьцё Максіма было горкае, жудаснае і цяжкае. Але кінуць ірыскі ды йзноў цягацца па вуліцах, было горш цяжка Максіму.

— Слухай, брат, адкуль ты бярэш для прадажы гэтыя ірыскі?—запытаўся аднаго разу ў Максіма нейкі хлопчык.



Максім падняў з вачэй сваю вялізную кучму, агледзіў сябра з ног да галавы ды нешта буркнуў сабе пад нос.

— Я не пайду туды браць, мне яны ня трэба—стаў лашчыцца да яго хлапчук. Максім расказаў гісторыю ірысак, а адначасна і сваю.

— Ты кінь гэтыя ірыскі, няхай ён падавіцца пяцьма капейкамі!

— Ідзі ў наш атрад.

— Які атрад?

— Піонэрскі атрад.

Наш атрад не дапусьціць таго, каб з цябе пакепльвалі й зьдекваліся.

Хутка хлапчукі разгаварыліся, што называецца, хутка адзін другога зразумелі.

— Табе вучыцца трэба—радзіў Максіму хлапчук-піонэр.

— А я думаў піонэры, гэта таксама нанятыя, каб хадзіць з песьнямі па горадзе і каб весялей было.

— Так... так... я згодзен. Ня хочу болей ірыскаў. Я хачу вучыцца. Атрад мне паможа.

— А хлеб у атрадзе будзе?— напасьледак апомніўся Максім.

— Будзе, будзе, цябе ў дзіцячы дом да нас прышлюць.

Весела, радасна стала на сэрцы у Максіма. Новае, сьветлае жыцьцё малявалася перад яго вачыма. А галоўнае—гэта тое, што Максім будзе вучыцца. Ня будзе бегаць па 15 гадзін у дзень па гораду і крычаць:—ірыскі, ірыскі...

Холад, мароз, сьцюжа, а ты бегай. Перанёсься Максім думкамі ў школу. Ох, як гэта прыемна!

— Добра, пайдзем,—радасна выклікнуў Максім.

Сябры ўзяліся пад рукі і пайшлі.

*Я.*





# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Замацоўваем змычку.

Мы, піонэры Ліозьнянскай організацыі, выпаўняем адзін з найважнейшых заветаў Ільліча: замацоўваем змычку гораду з вёскаю.

У сваёй школе мы кожны дзень праводзім гутаркі з сялянскімі дзяцьмі. Нашы гутаркі праз іх пераходзяць у вёску другім дзецям, якія ня ходзяць у школу.

Гэтым самым мы робім тое, чаму вучыў нас Ленін.

( 1-шы Ліозьнянскі атрад.)

*Пікор К. Чарнабродаў.*

---

**„Саюз рабочых і сялян—залог перамогі", Моладзь—спадзейны праваднік Ленінскай змычкі.**

---

## Усе піонэры павінны быць сябрамі МОПР'у.

**(Голас піонэркі 1-га атраду).**

Толькі на аднэй шостай частцы зямной кулі пролетарыят вызваліўся з-пад ўлады капіталістаў. Апрача гэтай часткі пролетарыят яшчэ катуецца капіталістамі. Пролетарыят паўстае супроць зьдзекаў, якія ўчыняюць яму капіталісты. Адбываюцца стачкі і забастоўкі. Пасьля гэтага перадавых пролетарыяў буржуазія садзіць у турму. Там ім яшчэ горшыя мукі. А многа іх і растрэльваюць.

Усе сьвядомыя рабочыя цяпер з'організаваны ў грамаду МОПР. Мы, піонэры вольнай краіны, таксама ўсе павінны ўступіць у сябры МОПР'у. Гэтым самым мы выканаем адзін з заветаў нашага дарагога дзядулі Ільліча

*Ліўшыц.*

## У майстэрні.

**(Сталярная майстэрня пры 4 дзіцячым доме імя т. Лібкнехта).**

Жыцьцё ў майстэрні пачынае закіпаць з самай раніцы. Сюды прыходзяць хлопцы з усіх куткоў гораду (большасьць з іх піонэры), каб навучыцца сталай працы.

Весела ў майстэрні, бурляць хлопцы ахвотаю і зацікаўленасьцю да сваёй працы. Разьліваюцца вясёлыя піонэрскія песьні. Ды як-жа ня пець? Пяюць рубанкі, пілкі, а пад іх тахты зацягваюць і хлопцы...,

3-ці год ужо існуе майстэрня. Але праца, як сьлед разьвярнулася нядаўна. Некалькі дзён таму назад, хлопцы ўласнымі сіламі такарку паставілі. Весела хлопцам працаваць на ёй, бо самі яе ўладзілі.

Мы вучымся. Мы хутка будзем сталымі такарамі.

Дрэнна толькі, што памяшканьня няма ў нас добрага. Цяпер мы робім 5 новых варстатаў, а паставіць іх няма дзе.

Майстэрня наша бярэ й заказы. На гэтых днёх для дому бяспртытульных робім сталы, лаўкі.

Да нас часта прыходзяць піонэры на экскурсіі. Мы ім усё тлумачым.

Ёсьць у нашай майстэрні і куток Леніна. Вучымся быць добрымі майстрамі і вучымся быць добрымі Ленінцамі.

*Як. Пер—скі.*

---

**Зраблю ручку з палачкі,**
**Сяду я на лавачку;**
**Напішу я допіс**
**У сваю часопісь.**

# Астраўскі піонэрскі атрад.

**(З запісак інструктара).**

Самыя далёкія куткі нашай вёскі ведаюць ужо аб піонэрах. Піонэрскі рух заваёўвае вёску. Робіцца гэта памаленьку, але бязупынна і настойчыва.

Праўда, многа яшчэ трэба палажыць энэргіі піонэрам, каб заваяваць канчаткова вёску. Вёска яшчэ часамі ня ведае, якая карысьць ад нашых атрадаў. Бацькі сварацца на дзяцей, а дзеці стыхійна валяць у атрады.

Такіх новых атрадаў, дзе яшчэ ідзе змаганьне дзяцей з бацькамі, многа Гэтыя атрады толькі што залажыліся. Бацькі яшчэ ня ўбачылі практычнай ад іх карысьці. Толькі таму яны часамі і сварацца на дзяцей, што дарэмна дзярэ боты і г. д.

Адным з такіх атрадаў—ёсьць Астраўскі атрад. Атрад заснаваўся ў лістападзе мінулага году. Але да гэтага часу яшчэ не аформлены, што будзе зроблена ў Ленінскі тыдзень. Атрад вырас ужо да 25 сяброў. Цяга дзяцей у атрад вялікая. Хоць бацька другога і крычыць за лапці, але нічога.—Пажывом, паглядзім: ты будзешь праў з „лапцямі“, ці я з атрадам?!—адказвае сын бацьку.

Уся бяда ў тым, што сын ужо зразумеў карысьць сваёй організацыі, а бацька яшчэ. Бацька яго яшчэ ня піонэр, а „акцябронак“ у зразуменьні атраду.

Праца атраду толькі пачала разгортвацца. Ня было спрыяючых умоў дзеля працы. Цяпер справа некалькі мяняецца. Атрад мае павадыра—комсамольца, які скончыў акруговыя курсы для павадыроў атрадаў. Засталося набыць яшчэ свой клюб і бібліотэчку. Да гэтага часу атрад працуе ў памяшканьні школы. Набыць бібліотэку—чарговае і самае важнае пытаньне усіх нашых атрадаў.

Атрад змог за гэты кароткі тэрмін цесна зьвязацца з жыцьцём ячэйкі Комсамолу. Праца піонэраў і комсамольцаў мае паміж сабою самую цесную сувязь. Настаунік таксама не стаіць у баку ад атраду.

### Унутранае жыцьцё атраду.

Сходы адбываюцца 3 разы на тыдзень пасьля заняткаў у школе. На сходах піонэры патрошку знаёмяцца з Ленінізмам і піонэрскім рухам. Апрача гэтага колектыўна распрацоўваюць пытаньне, як налепшыць нашу вясковую гаспадарку. Піонэр помніць, што ён рыхтуецца быць добрым гаспадаром і добрым Ленінцам.

Атрад цесна зьвязан з 58 менскім атрадам піонэраў. Шкода толькі, што апошні ўсяго адзін раз прыяжджаў у Астраўскі атрад.

У апошні час атрад заняўся вывучэньнем біографіі Калініна. У Ленінскі тыдзень атрад будзе зацьярджацца, і маецца на мэце даць яму назву імя Калініна. Піонэры такім чынам загадзя ухапіліся за вывучэньне біографіі свайго ідэйнага правадыра.

Паволі, але няўхільна і бязупынна расьце піонэрская вёска.

в. Астравы, Самахвалаўскага раёну.

**Ф. Туркін.**

## Мы на зьмену ідом.

Мы на зьмену ідом комсамолу,
З цёмных хатак, сялянскіх палёў.
Мы бадзёрыя, сьмелыя хлопцы,
Да змаганьня з нас кожын гатоў.

Да змаганьня за шчасьце працоўных,
За комуну, за справу мы Леніна,
Крыкнем голасна:—ўсе мы гатовы!
Пяраможам усё: мы упэўнены.

Піонэр Г—бко.



Дзе ты быў, што рабіў,
Ці чуў цагалоску?
—„Беларускі піонэр“
Прывезьлі у вёску.

## Ліст да Ў. М. Ігнатоўскага.

ДЗЯДЗЬКА ІГНАТОЎСКІ!

Мы, піонэры Нізаўскога вясковага атраду, даводзім да Вашага ведама, што на адным з сваіх сходаў мы ўхвалілі насіць Ваша ідэёвае імя, што лічым за вялікі гонар.

Перш за ўсё дазвольце Вас вітаць з 20-х гадовым юбілеем вашай рэвалюцыйнай і культурна-асьветнай працы.

Мы працуем у надта цяжкіх умовах, але гэта толькі ўзмацоўвае наш дух і падымае настрой.

Мы зьвяртаемся да Вас з просьбай аб Вашай ідэёвай дапамозе ў гэтай цяжкай нашай працы.

Калі маеце магчымасьць прышлеце нам свой портрэт, біографію й некалькі сваіх твораў, якія вы знойдзеце для нас патрэбнымі.

Трымайце з намі сувязь.

*З піонэрскім прывітаньнем:*

*Піонэры вескі Нізок.*

## Пікоры „Маладняку“.

Мы, пікоры м. Крычава, выказваем сваё шчырае дзякуй сябром пролетарскіх пісьменьнікаў і поэтаў «Маладняка» за тое, што яны далі нам пэўны напрамак у нашай працы. «Маладняк» падняў бадзёры настрой у нашых хлапцоў. Ад «Маладняка» мы даведаліся аб сваёй Беларускай літаратуры і культуры. Мы—таксама Маладняк і з маладняком заўсёды пойдзем плячо ў плячо. Як вырасьцем, даём зарок, што не аднаго свайго сябра дадом у ваша аб'яднаньне. Вітаем аб'яднаньне беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк» з гадавінай яго існаваньня, спадзяёмся, што «Маладняк» і надалей будзе трымаць з піонэрамі самую цесную сувязь.

По даручэньню пікораў напісаў

*Яшка Гіндман.*

м. Крычаў. Калінінскае акругі.

## Юлік і Надзя.

**(Малюнак з натуры).**

Грукнула і скрыганула клямка дзьвярэй. У хату ўвайшла Надзя, дзяўчынка гадоў 10-ці.

— Цётка, мама прасіла..

— Чаго прасіла?

— А-а... рэшата.

З другога пакою выбег сын цёткі Юлік. На грудзёх у яго быў піонэрскі значок.

— Калі-ж гэта табе далі яго?—запыталася Надзя ў Юліка. Надзя ведала, што Юлік дзён некалькі таму назад, як уступіў у атрад.

— Учора выдалі. Учора даў урачыстае абяцаньне быць запраўдным піонэрам.

— Гэта-ж учора ў дзень сьвята комсамолу ім і далі,—падцьвердзіла матка..

— А вось і гальштук.

Юлік хутка пабег у свой пакойчык і зьвярнуўся адтуль ужо з чырвоным гальштукам.

Надзі больш ня было чаго пытаць. Яна апусьціла свае вочкі і маўчала. А ў думках пранасіліся гальштукі, значкі.

— Чаму гэта ў мяне няма гальштука й значка. Ці-ж не магу я быць піонэркай—думала Надзя.

— Ня сумуй, Надзя—пагладзіла яе па галаве цётка.

— Скажы Веры і яна цябе завядзе ў атрад.

— Дык Вера-ж у комсамоле, а гэта піонэрскі атрад.

— Нічога гэта браты родныя. Вера паможа і запішуць.

* * *

Назаўтра Надзя не адставала ад Веры да тых пор, пакуль Вера не павяла яе ў атрад.

*Піонэр Я. Б.*

## Піонэрскае дзякуй.

Дзядзька Гартны (беларускі пролетарскі пісьменьнік), калі быў у нас у Крычаве, шмат ўвагі аддаў нам, піонэрам. Мы залічылі яго сваім пачэсным піонэрам і прасілі прысылаць свае творы. Гэтыя творы мы хутка ад дзядзькі Гартнага атрымалі. Як акуратнаму і пачэснаму піонэру выказваем сваю ўдзячнасьць.

Гэтыя творы лягуць у аснову нашай працы. Мы будзем хаваць іх, як дарагі падарунак і будзем ісьці па таму шляху, які вызначаны ў творах дзядзькі Гартнага.

По даручэньню піонэраў м. Крычава напісаў пікор *Я. Першамайскі.*






## Піонэр павінен быць прыкладным у школе.

### (Голас піонэра 12 атраду).

Кожны піонэр, які вучыцца ў школе, павінен паставіць перад сабою два заданьні: добра вучыцца і весьці політычную працу сярод школьнікаў.

Звычайна бываюць такія здарэньні, што піонэр вучыцца слабей. У піонэра шмат працы апрача школы, як у атрадзе, у розных камісісях і г. д. Але гэтак справа стаяць не павінна. Піонэр павінен быць найлепшым школьнікам. Гэта наша заданьне.

Кожны піонэр трэба, каб меў плян рязьмяркаваньня працы. Трэба ўмець скарыстаць час так, каб гэта было карысным для працы і каб ад гэтага былі вынікі.

Політычную працу піонэрам у школе трэба весьці організаваным шляхам.

Ня трэба раскідацца і рассыпацца па аднаму. У школе могуць быць піонэры розных атрадаў і з гэтай прычыны яны ўсе павінны організавацца ў **піонэрскі форпост** (форпост гэта перадавы пост, або наагул першае месца ва ўсялякай працы).

Піонэрскі форпост павінен разьмяркоўваць працу сярод піонэраў, павінен кіраваць працаю піонэраў.

Форпост—гэта асяродак, куды кожны піонэр зьвяртаецца з незразумелымі для яго пытаньнямі ў працы і інш.

Праз форпост мы павінны цесна зьвязацца з усімі школьнікамі.

Кожнае сьвята, вечар у школе наладжваецца пры самым блізкім удзеле форпосту.

Піонэр у школе павінен быць прыкладным ува ўсялякай працы. Піонэр павінен быць найлепшым школьнікам. Піонэр павінен помніць, што яго абавязак прыцягнуць усіх дзяцей у шэрагі піонэраў, зацікавіць іх сваёй організацыяй.

*М. А.*

## Форпосты мацнеюць.

Форпосты організаваліся ў нас нядаўна. Спачатку праца йшла туга, бо ня было добрых адносін з боку настаўнікаў. Цяпер справа наладзілася.

Першаю працаю форпостаў была—правядзеньне Кастрычнікавае Рэвалюцыі. Гэту працу мы выканалі з посьпехам. Па ўсіх школах былі праведзены вечары, ахвяраваныя гэтаму дню.

З комсамольцамі сувязь наладжана добрая. Можна спадзявацца, што форпосты ў школах адыграюць вялікую ролю. Школа стане запраўды новаю школаю.

Віцебск. *Вучань М. І.*

---

**Піонэр, вывучвай Леніна. Ленін паказаў, як трэба весьці барацьбу з нашымі ворагамі.**





# Дзе дрэнныя парадкі.

## Рэдкалегія, прачніся.

У 1-ай школе чыгуначнікаў імя т. Чарвякова к дню Кастрычнікавае рэволюцыі вышаў першы нумар насьценнай газэты «Чырвонае Кавадла». Гэты нумар вісіць і пасёняшні дзень.

Рэдкалегія, прачніся, бо даўно ўжо трэба было выпусьціць другі! *Пятрусь Ш.*

## „Дае прыклад“.

Як толькі пачаўся перарыў, памоцнік павадыра ходзіць па калідоры і зрывае шапкі ў хлапцоў. Гэты-ж сябар з'яўляецца і прадстаўнікам школькому. Пасьля званка ўсіх ён гоніць у клясу. А сам гэтаму правілу не падлягае. Сам выгульвае сабе з дзяўчатамі IV курсу і хоць бы што.

Вось дык прыклад для другіх!

(1-я шк. Чыгуначнікаў). *Піонэр.*

## Памялом гоніць з клюбу.

Заходжу гэта я неяк адзін раз у Пярэжырскую хату-чытальню пачытаць газэту. Але толькі я адчыніў дзьверы, як сторож мяне памялом ды—вон. За што? Я доўга й сам ня ведаў. Пасьля я даведаўся, што на яго нехта напісаў заметку ў вучнёўскай газэце. Няўжо гэтак будзе й далей?

*М. Т.*

## Патрэбен пакой.

У нас у 3 школе чыгуначнікаў Ленінскі куток зьмяшчаецца на калідоры. Куток абсталяваны зусім дрэнна. Што было і тое паабрывалася.

Культаддзелу трэба паклапаціца дастаць пакой для Ленінскага кутка.

*Вучань Пятрусь Ш.*



# Пойдзем наперад.

Зьвеньнямі ў шэрагі стройся, атрад!
Дружна сальлёмся з сям'ёю грамад.
Дружна і сьмела гартуйма свой шаг!
Новым агнём хай палае душа.

Пойдзем наперад! Нас заўтра заве.
Мы, піонэрыя,
З моцнаю верай
Выпаўнім Леніна сьветлы завет.

Зьвеньнямі ў шэрагі стройся, атрад!
Дружна сальлёмся з сям'ёю грамад.
За комсамоліяй рацъ наша йдзе...
Новы ўжо бліжыцца, бліжыцца дзень!

Пойдзем наперад... і г. д.

Зьвеньнямі ў шэрагі стройся, атрад!
Дружна сальлёмся з сям'ёю грамад.
Дзеці працоўных, усіх няхай нас
Кветкамі шчасьця спаткае вясна.

Пойдзем наперад... і г. д.

Я. Падабед.

# Як ня трэба весьці перапіску паміж атрадамі.

Ніжэй мы прыводзім поўнасьцю ліст піонэраў г. Дрысы, Полацкай акругі аднаму з Менскіх атрадаў.

Гэты ліст нічым ня розьніцца ад большасьці лістоў, якія пасылаюць атрады адзін другому.

Нам пара ўжо зьвярнуць увагу на сваю перапіску. Трэба, каб кожны ліст да нашых сяброў з другога атраду быў-бы *карысным для іх.*

Можна пісаць аб зборах атраду, аб працы ў клюбе, у сям'і, аб працы сярод неорганізаваных дзяцей, аб працы форпосту. У кожным атрадзе ёсьць процьма працы, якая будзе цікавай для другога атраду. Цікавай тым, як мы выконваем гэту працу. Перадаць аб сваёй працы другому атраду — наш абавязак.

А чаму-б нам не паслаць апісаньне гульняў, песьняў, якія ведае адзін атрад, а можа ня ведаць другі.

Калі мы гэтак павядзём сваю перапіску, яна будзе карыснаю і цікаваю.

Лісты накштал гэтага толькі час адымаюць у піонэраў. Ды якая каму ахвота яго чытаць.

Больш сталага, карыснага ў лістох да другіх атрадаў!

Асабліва гэту сталасьць трэба ўнесьці ў перапісцы з *вясковымі атрадамі.* Яны чакаюць ад сваіх гарадзкіх сяброў дапамогі і перадачы гатовага вопыту, а ім часта пішуць: «будзем рады весьці перапіску», «шлем вам гарачае прывітаньне», «заўсёды гатовы» і г. д.

Такую перапіску весьці не патрэбна.

*Л. Б-ін.*

# Менск.

Будзьце гатовы, брацьця юныя ленінцы!

Мы, юныя ленінцы г. Дрысны, парашылі напісаць да вас ліст, каб завесьці з вамі перапіску і пазнаёміцца з вашай працаю.

Мы, юныя ленінцы, шлем гарачае прывітаньне піонэрам г. Менску. Мы, юныя ленінцы, будзем рады весьці з вамі перапіску. На першы час мы хочам завесьці перапіску з вашым вокругам, бо ён намі кіруе*).

Пісаць болей няма чаго. У другі раз напішам аб сваёй працы. Канчаем свой маленькі ліст і чакаем ад вас адказу.

Мы, юныя ленінцы гораду Дрысны, заўсёды гатовы!

Адрас: горад Дрысна, Віцебскай губ. для юных Ленінцаў.

3 студзеня 1925 г.

# Лёд захістаўся.

Моцна расьце цяга сялянскіх дзяцей да піонэрскіх атрадаў. За 6—8 вёрст прыходзяць дзеці ў атрады, каб і самім залічыцца ў піонэры. Многа мы ўжо маем такіх фактаў. Адзін з іх, як больш выразны, мне хочацца паказаць.

Ворша. Ідучы па самай галоўнай вуліцы, я спатыкаю сялянскага хлопчыка. Адзеты ён быў лядашта. Шапка (відаць, бацькава) налазіла аж на нос. Хлопчык штомінутна шморгаў яе ўверх, выціраў нос і з нейкім патаемным задуменьнем разглядаў вывескі. Я здагадаўся, што ён нечага шукае. Хацеў ужо запатацца, як ён затрымаў мяне сам:

— Дзядзька, дзе тут піонэскі аддзел?

— На што ён табе? — пытаюся я ў хлопчыка.

— Хасу запісацца піонэлам.

Сам я як раз і йшоў у акруговае бюро юных піонэраў.

— Добра — пойдзем, сказаў я. Хлопчык павесялеў. Шапку сваю ён так шмаргануў уверх, што тая бедная чуць у гразь не паляцела. Па дарозе я пачаў з ім гутарыць. Хлопчык мне расказаў наступнае: Завуць яго Рыгорам Бухаравым. Ён ужо мае 12 гадоў. Жыве Рыгор за 8 вёрст ад гораду і піонэраў жывых яшчэ ў вочы ня бачыў. Жыцьцё дома вельмі дрэннае. Бацька памёр даўно. Матка адна ня можа дагледзяць яго. Апрача гэтага жывуць зусім бедна.

* **Ад рэдакцыі:** Піонэры г. Дрысны, відаць, ня ведаюць організацыйнага статуту: яны кіруюцца ня Менскай акругай, а Полацкім Акруговым бюро юных піонэраў і Цэнтральным Бюро юных піонэраў, якое, знаходзіцца ў г. Менску.

— Табе-ж далёка будзе хадзіць—кажу я Рыгору.

— Нісога. Я ўжо вылісыў, 48 вёрст у тыдзень.

У бюро юных піонэраў мы даведаліся з Рыгорам усё, як і дзе ўступіць у атрад. Радасным, вясёлым пашоў Рыгор дадому.

* * *

Такіх Рыгораў у нас ня мала. З такіх Рыгораў і складаюцца вясковыя атрады. Глядзіш: адзін, другі, трэці, а там і атрад свой у вёсцы. Лёд захістаўся. Піонэрскія хвалі бурліва панесьліся па ўсім прасторам балот і палёў.

*М. Лабадзеў.*

---

**Паглядзеце вы на вёску,**
**Ці дасьце вы веры?!**
**Уся вёска чырваніцца**
**Ды ад піонэраў.**

---

# Мы.

Мы выраслі на вуліцах,
На прызьбе пад страхой.
Ня мелі нянек, цацак мы,
Дык біліс між сабой.

Па цэлых днёх галодныя—
Хто мог нас даглядаць?!
Ішлі бацькі ў падзённае
К паном касіць, араць.

А ўвечары, як вернуцца,
Шукалі нас ня раз.
Засьнеш бывала дзе-нібудз,
Застане тут зара.

У школу не хадзілі мы,
Была яна—прыгон.
За вушы там настаўнікі
Цягалі за «закон».

Цяпер-жа мы свабодныя—
Няма таей пары.
Ў атрадзе піонэрыяў
Ад ранку да зары.

Ідом мы з комсамольцамі.
Цьвярдзей, шырэй размах!
Заўжды ўсе гатовыя:
Трымаць працоўных сьцяг.

Мы вучымся у Леніна,
Як быць нам у жыцьці.
Працоўных справу суджана
Нам скончыць, давясьці.

*А. Якімовіч.*



# ГАЗЭТА „БЕЛАРУС

## Шостая гадавіна Савецкай Беларусі.

31 сьнежня мінулага году мы сьвяткавалі шостую гадавіну існаваньня Савецкай Беларусі. Як раз у гэты дзень быў падпісаны маніфэст аб утварэньні Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Да гэтага часу на Беларусі былі нямецкія капіталісты, якія рвалі яе жывое цела і смакталі гарачую кроў.

За шэсьць гадоў свайго існаваньня Савецкая Беларусь многа чаго перанесла. На яе тэрыторыі адбываліся бойкі з палякамі. Беларусь перанесла польскі бізун. Але моцная энэргія рабочых і сялян вытрымала усё. Упартаю барацьбою мы адваявалі сабе настаяшчую свабоду.

## Ячшэ адна ахвяра польскіх катаў.

22-х гадовы варшаўскі мэталіст *Раман Гроздзіцкі* скончыў сваё жыцьцё на 7-ым дні галадоўкі ў Ломжынскай турме.

Кінуты ён у турму ў 1923 г. за ўдзел у выступленьні беспрацоўных. У турме становіцца комуністым.

Чэсьць стойкаму салдату за справу працоўных!

Сьпі спакойна, малады таварыш, твая адважная сьмерць народзіць тысячы новых барацьбітоў, якія пойдуць тваім шляхам і дойдуць да соцыяльнае рэволюцыі.





**Ўсевалад Макаравіч Ігнатоўскі.**

31-га сьнежня мы сьвяткавалі 15 гадовы юбілей грамадзянскай працы Ўсевалада Макаравіча Ігнатоўскага.

Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі—сын вясковага настаўніка з сялян.

У дзевяцісотых гадох, будучы у сэмінарыі, Ігнатоўскі прымае дзейны ўдзел у рэволюцыйных гуртках моладзі; з-за гэтага яго прымусілі пакінуць сэмінарыю.

Наступае 1904 год; за ўдзел у дэмонстрацыі Усевалад Макаравіч пападае ў турму.

Усевалад Макаравіч разам з другімі сваімі сябрамі высылаецца з Піцеру на бацькаўшчыну.

У той час у Вільні існавала партыя, якая называлася Беларускаю соцыялістычнаю грамадою.

Ігнатоўскі перабіраецца ў Вільню і прымае дзейны ўдзел у працы Грамады. Тут ён працаваў да 1914 году.

З 1914 году Ігнатоўскі перабіраецца у Менск у настаўніцкі інстытут, дзе вядзе працу сярод моладзі—вучняў інстытуту.

Перавод інстытуту ў Яраслаўль спыняе рэволюцыйнай працы Усевалада Макаравіча. Тут закладаецца організацыя „Маладая Беларусь“. Пасьля звароту інстытуту ў Менск у 1918 годзе „Маладая Беларусь“ робіцца беларускаю комуністычнаю організацыяй.

У часе польскай окупацыі гэта організацыя працуе ў падпольлі разам з компартыяй.

І праз самы кароткі час беларуская комуністычная організацыя перастае існаваць, уліўшыся ў шэрагі компартыі.

Цяпер тав. Ігнатоўскі зьяўляецца адным з актыўнейшых работнікаў комуністычнай арміі, ён—сябар ЦК, сябар яго бюро і загадчык агітпропу.

Аднычасна ён займае пасаду народнага камісара асьветы Беларусі.

## Усебеларускі настаўніцкі зьезд.

З 4-га па 9-е студзеня адбываўся у Менску Ўсебеларускі Зьезд Настаўнікаў.

Піонэры цэлым зьвяном горача віталі Настаўніцкі Зьезд і выказалі спадзею, што настаўнікі памогуць нам у нашай працы.

Настаўнікі адказалі, што яны з вялікай радасьцю йдуць на сустрач піонэрскаму руху.

Настаўнік, комсамолец і піонэр—змаганцы за новую вёску. Настаўнік будзе дапамагаць нам, піонэрам, а мы настаўніку.

## Нашы коопэратывы.

У апошнія часы піонэры пачалі будаваць свае коопэратывы. Піонэрскія коопэратывы ўжо маюцца у г. г. Менску, Слуцку.

Свой коопэратыў—рэч вельмі добрая. Усе піонэры павінны падтрымліваць гэтую важную справу ў нашым жыцьці. Кожны піонэр павінен быць сябром свайго коопэратыву. Коопэратывы трэба адчыніць па усіх мястэчках, а ў далейшым і па вёсках.

У сваім коопэратыве мы знойдзем усё тое, што нам трэба і куды танней.

Піонэр, будуй свой коопэратыў!

# КАГА ПІОНЭРА“.

## Апошнія сусьветныя палітычныя падзеі.

### Злучаныя Штаты Амэрыкі думаюць над прызнаньнем Саюзу ССР.

Амэрыканская буржуазія пераманіла свой погляд на Саюз ССР. Цяпер яна падумвае над пытаньнем прызнаньня нашага Саюзу.

Ворагам і злосным ворагам прызнаньня да гэтага часу быў міністр замежных спраў Амэрыкі Юз. Цяпер ён падаў ў адстаўку (бачыць, што на яго ня выдзе).

Новы міністр на месца Юза назначаны Франк Келог. Гэты міністр трошка мякчэйшы за Юза ў адносінах да Саюзу ССР.

Прызнаньне магчыма.

### Францыя і Саюз ССР.

У канцы мінулага году Францыя прызнала наш Саюз юрыдычна. Але да апошніх дзён француская буржуазія яшчэ тузалася паміж сабою: добра яна зрабіла, ці дрэнна.

11 студзеня ў Маскву прыехаў француські ўпаўнаважаны пасол у СССР Жан-Поль-Эбэрт.

Нормальныя дыплёматычныя адносіны паміж Саюзам СССР і Францыяй наладжаны.

### Фашысткая рэакцыя ў Італіі. Вярхоўная ўлада ў руках фашыстаў.

Італьлянскія міністры вайсковы, морскі і гандлю падалі ў адстаўку. На іх месца ўрад Мусаліні назначыў фашыстаў.

Папярэднія міністры былі фашыстамі напалавіну. Яны мелі здавольнасьць хоць дакляраваць палёгку рабочым і сялянам. Цяперашнія-ж зразу ўсё перавярнулі ўверх дном.

Па ўсёй Італіі адбываюцца самыя злосныя выступленьні фашыстаў супроць працоўных. Усё, што йдзе ім наперакор, фашысты ломяць, паляць і вынішчаюць.

Мусаліні пайшоў за фашыстамі.

### Меншэвікі і буржуазныя партыі супроць фашызму.

Яны хочуць захапіць уладу ў свае рукі. Меншавікі і розныя буржуазныя партыі выпусьцілі маніфэст. У гэтым маніфэсьце яны заклікаюць усю краіну выступіць супроць фашызму.

Але працоўныя Італіі хутчэй усяго бяз іх маніфэстаў выступяць і скінуць уладу ня толькі фашыстаў, але й падфашысьцікаў гэткіх, як меншавікі і іншыя панове.

### Напад Польскае банды.

Уночы на 5 студзеня з боку польскае мяжы перайшоў на савецкую тэрыторыю атрад. Гэты атрад меў 40 чалавек пяхоты і 3-іх конных

Адбылася перастрэлка паміж атрадам і нашымі патрулямі. Атрад уцёк за мяжу.

Савецкі ўрад накіраваў камісію ў мястэчка Ямпаль (месца, дзе пераходзіў атрад) для выясьненьня справы.

## У ЦК ЛКСМБ.

### Мобілізацыя 50.

Бюро ЦК ЛКСМБ вырашыла паслаць 50 комсамольцаў гораду на працу ў вёску.

### Юнсэкцыі пры профклюбах.

Політычна-асьветным аддзелам ЦК ЛКСМБ распрацованы статут аб абхопе комсамольскай працаю і ўплывам на рабочую моладзь пры профклюбах праз юнсэкцыі.

## У ЦК РЛКСМ.

16 студзеня адбыўся пленум ЦК РЛКСМ., на якім, поруч з іншымі пытаньнямі, стаяла пытаньне аб піонэрскім руху.

## Комсамолу Беларусі.

### Ліст ад амэрыканскіх сяброў.

### У ЦК ЛКСМБ.

(Ліст з Амэрыкі ад выставачнага камітэту пры Расійскім аддзеле Лігі рабочай моладзі).

Паважаныя таварышы!

Расійскі аддзел КСМ Амэрыкі парашыў арганізаваць „Выстаўку Міжнароднай Комуністычнае Прэсы“. Але за адсутнасьцю сродкаў, мы зьвяртаемся да ўсіх замежных сяброў.

Мы спадзяёмся, што вы не адкажаце нам выслаць вашы пэрыодычныя выданьні, плякаты, часопісі і г. д.

*Выстаўком.*

### Літаратура для піонэраў.

Цэнтральнае Бюро Юных піонэраў Беларусі вядзе падрыхтоўку па выданьню сэрыі піонэрскай літаратуры на беларускай мове. Маецца на мэце выпусьціць у бягучым годзе наступныя кніжкі:

1) Зборнік песень з нотамі.
2) Зборнік апавяданьняў.
3) Зборнік вершаў.
4) Хрыстаматыя для павадыроў атрадаў. Гэта-ж хрыстаматыя будзе зьяўляцца адначасна і падручнікам для школ.

З пэрыодычных піонэрскіх выданьняў застаюцца:

1) „Беларускі піонэр“—часопісь.
2) Піонэрская газэта—на жыдоўскай мове.
3) „Юный Строитель“—на расійскай мове.



# ЮНЫ ЗМАГАНЕЦ.

(З часоў адступленьня).

* * *

Між балот над шырокай далінай—
Недалека ад роднае вёскі—
Падымалася йзноў страляніна,
Панаваў над палеткамі лёскат.

А ў далі за разлогім абшарам,
За гарою высока-пакатай,
Ружавелі асеньнія хмары,
Уздыхалі павольна гарматы...

І каціліся водгукі глуха
Па грудзёх вольна-думнага Нёмну;
Пела песьні свае завіруха,
Адбівалася ў сэрцы агнём.

Беларусь убінтоўвала раны,
Беларусь спавівалі пажары...
Апускаліся рукі на пана,
Нястрымоўвала помсты душа!..

Гэта йшло за свабоду змаганьне,
Папялела мінулае з дымам,—
Каб на вогнішчы буры-паўстаньня,
Красаваўся ўзрост малады.

* * *

Чорнамазая ночка-цыганка
Над далінаю хмурыла бровы,
Разьвітаўся з маткаю Янка,
Адыходзячы ў лес у «Дуброву»...

Яго брат—комсамолец адважны—
Атаманам паўстанцаў у лесе,
Бо, відаць, пад нагайкаю ўражай
Не хацеў галавы свае зьвесіць.

І туды, дзе дыміліся сёлы,
Янка сьмела глядзеў па-за станцыю.
Яна там маладая, вясёлая
Грамада разудалых паўстанцаў!..

Іх імкненьні—бязьмежжа-прывольле,
Нястрыманы палёт сакаліны.
Яны поўны змаганьня за волю,
Яны сэрцам за вольнасьць краіны!

Ужо ночка васеньняю смагай
Атуляла разлогі, паляны,
Як напоўніўшы грудзі адвагай
Разьвітаўся з матуляю Янка.

* * *

Ой, ня плакалі ў полі бярозы,
Ня шумела над рэчкай каліна,—
То раняла гарачыя сьлёзы
Маладая ўдава Кацярына.

Яна поглядам мерала поле,
Дзе віхура бур'ян уздымала.
І белявай рукою паволі
Брыльянцістыя каплі ўцірала.

А ў грудзёх акіянскім прыбоем
Напявала душа вызваленьне.
Яны там, арляняты абое,
Ставяць сьвет пажылы на калені.

І зязюля-ўдава Кацярына
Пазірала на тую дарогу,
Куды сёньня малодшага сына
Выпраўляла сьпяваць перамогу.

* * *

Белы месяц расхлістаны, п'яны
Плыў, каціўся над лесам, панурым,
Як ішоў ў партызаншчыну Янка—
Шчуплаліцы юнак белакуры.

Яго сэрца пылала пажарам,
Маладое ня ведала страху.
Толькі мералі вочы абшары,
Бурапеніла помстай душа.

Ён мінаў быльняковыя межы,
Пераходзіў змаганьня граніцы,
Калі прагнулі грудзі ў бязьмежжа:
На спатканьне жыцьця зараніцы.

Вось і лес. Старажытныя дрэвы
Гаманілі ціхутка ў прасторы.
Яго клікалі волі напевы,
На твары маладчавіў задор.

А за гаем нямелі гарматы,
Засыналі пакутныя вёскі.
Толькі бор гаманіў, як закляты,
Завірухі глытаў адгалоскі.

. * .

Поўнач. Пеўні ў далі прасьпявалі,
Смуглы месяц хаваўся за горы.
Душа Янкі імкнулася далей,
У гушчар задумлёнага бору.

Ён адважна віхрыў на палянку—
Павясьціць разудалых паўстанцаў,
Што ў ваколіцы з самага ранку
Ім гатовілі кару пазнанцы.

Зашумелі панура асіны,
Пакаціліся зыкі глухія.
Толькі чуе за цемнай лагчынай
Па гальлі захадзілі шагі.

Супыніўся. Касіліся вочы,
А кіпучае сэрца ня млела.
Як у пушчы задумнае ночы
Матанулася цень у імгле.

Хутка постаць мігнула маланкай,
Разажмурыўся твар белаваты.
Распазнаў, не спалохаўся Янка,
Гэта быў атаман, яго брат.

Мілы, родны Міхась, чарнабровы!..
Мы спаткаліся сёньня з табою,
Каб у заўтра пакінуць «Дуброву»
І пайці на змаганьне абоім.

І пад росла-разложыстым клёнам,
Дзе шумелі галіны густыя,
Абняліся арлы-віхрагоны,
Абняліся паўстанцы-браты...

. . . . . . . .
. . . . . . . .

. * .

То ня бура віхрыла на моры,
Ня буяніў уздым акіяну,—
Гэта пелі паўстанцы з задорам,
Пакідаючы вольнай паляну.

Гэй, вы хлопцы—арлы маладыя,
Уздымайце магутныя крыльлі!
Хай пакутаю сэрца ня ные,
Калі межаў няма нашай сіле!

Мы зруйнуем мінулае з дымам
І разложым агні на кургане.
Закалосіць свабодным уздымам
Маладога жыцьця акіян.

. * .

І адвагай душа залілася.
Паказалісь акопы-канавы.
А пад сьветла-лазоравай высьсю
Сьвет стары паняволі канаў.

І запелі паўстанцы з-за яру:
«Мы да вас, маладыя ваякі!»
Будзем разам змагацца, бунтарыць,
«Каб узьняць вызваленьня маяк».

Скалынуліся стройна калёны,
Наступалі у бой на пазнанцаў...
Сёньня Янка падносіў патроны.
Волі сьцяг уздымаў партызан.

Пашчыльнелі атрады чырвоных,
Узбруіліся новаю сілай.
Як ізноў завіруха загоны
Ўжо апошнім агнём запаліла...

. * .

Гарматаў гул.
На ранах гоні...
Пажар!..
Мы на шляху.
І пад агонь
Імкнецца бурная душа!..
Палалі вёскі
Чырвоных песьні:
«Эй, упярод!..»
Свабоды ўсплёскі,
Мы напрадвесьні—
Трашчаў адважна кулямёт.
І з-за разгонаў
З левай, з правай
Ішлі яны—
Байцоў калёны
Даеш Варшаву!
Былі іх водгукі чутны.
Зьнікаў туман—
Шырэй дарогу!
Перамогу
Іграў чырвоны барабан...

. . . . . . . .
. . . . . . . .

* * *

Разьвіднелася. Змоўклі грымоты,
Акрапіліся раніцай гмахі,
Як магутна-чырвоныя роты
Уздымалі над вёскаю сьцяг.

А пад сьцягам жыцьця-вызваленьня,
Пад страхою сялянскае хаты.
Сустракала ўдава з адраджэньнем
Лёгкакрылых сыноў-арлянят.

І бруілася сэрца пажарам,
Абнімаючы Янку малога.
Пагасалі асеньнія чары,
Расьцьвітаў Беларусі разлог.

Сёньня Янка нястрымана-вольны,
Піонэр і паўстанец у вёсцы.
Дзе нядаўна ў часы паднявольля
Гадаваўся ў пакутах і рос.

Сёньня ён разганяецца ў далі—
Калі ў сэрцы сусьветнае—Ленін.
Калі ўпэўнены ў тым, што і далей
Не сагне перад панам кален.

Яго брат—што старое разбурыў
— Комсамол з пролетарскаю верай!
Яму матка—ўзгадована бурай—
Комсамолія Б. С. С. Р.

Паўлюк Трус
(сябар «Маладняка»).



# ЧЫРВОНЫЯ ЗОРКІ.*)

## Хто быў Ленін.

Уладзімір Ільліч радзіўся ў горадзе Сімбірску 23 красавіка 1870 году. Бацька Леніна быў дарэктарам народных школ Дзяцінства сваё Ленін правёў у вёсцы. Любімымі яго таварышамі былі вясковыя хлопчыкі, з якімі ён любіў гуляць ў бабкі, лавіць рыбу, езьдзіць на начлег. Для гульні ў бабкі ў Валодзі была чыгунная бабка, якою ён зьбіваў усе косьці. Валодзя рэдка заставаўся бітым.



**Ленін ва ўзросьце 3-ох гадоў.**

Валодзя вельмі любіў прыроду. Часта, каб яго ўзялі на начлег дарослыя, ён пускаўся на хітрасьці.

— Вазьмеце мяне з сабою на начлег. Я дзеля ўсіх нарыхтаваў гарбаты, цукру. Я там вогнішча разьвяду, дроў наламлю. Старэйшыя не згаджаліся. Валодзя набіраўся сьмеласьці і йшоў па іх сьлядох на начлег.

Дзевяці гадоў Ленін пастуціў у гімназію. Ен быў шустры, вясёлы і вельмі здольны хлопчык. Калі старэйшыя браты і сёстры займаліся, Валодзя ім часта перашкаджаў. Бацька гукне Валодзю і запытаецца:

— Ты чаму лекцыяў ня вучыш?

— А я ўсё ведаю—-адказваў Валодзя.

Бацька пачне яго пытацца—Валодзя адказвае без запіначкі. Каб болей затрымаць Валодзю, бацька пытаецца і аб старым. Валодзя і гэта ведаў. Здольны быў Валодзя і заняткі яму лёгка даваліся.

17-ці гадоў Ленін скончыў гімназію з залатою мэдальлю. Паступіў ва ўнівэрсытэт, але яго хутка выключылі за яго вольныя думкі. Ленін займаўся сам і на 21 гаду вытрымаў экзамэн за ўнівэрсытэт.

Ленін многа вучыўся. Калі Леніну было 25 гадоў яго заарыштавалі і пасадзілі ў турму. І тут Ленін ня сумаваў. Усё чытаў і чытаў, вывучваў Карла Маркса. Ён так быў захоплены кнігамі, што калі прышла да яго сястра і сказала, што яго хутка выпусьцяць, ён жартліва адказаў: „так скора? а я яшчэ не падрыхтаваўся, ня ўсе матар'ялы сабраў“.

І Ільліч усё зьбіраў. Сабраў комуністычную партыю, організаваў рабочых. На гэта ён палажыў усё сваё жыцьцё.

Працаваў і губляў свае сілы Ленін ня дарма. Рабочыя й сяляне ў кастрычніку 1917 году ўзялі ўладу ў свае рукі.

Да 1923 году Ільліч вельмі многа працаваў. Быў старшынёю Саветаў Народных Комісараў. Напісаў многа кніг, каб мы па іх вучыліся, як будаваць сваё сьветлае жыцьцё. Леніна ведаюць працоўныя ўсёй зямной кулі, усе рабочыя і сяляне ўспамінаюць Ільліча з вялікай любоўю.

Цяжкая праца зламала моцныя сілы Ільліча. Ільліч памёр на 54 годзе свайго жыцьця. Яго праца ня згінула дарма.

У Леніна застаўся сын—Комуністычная Партыя, якая выканае да канца, распачатае пры Леніне.

**Ленін—вялікі правадыр сусьветнага пролетарыяту.**



**Ленін на сьмяртэльнай пасьцелі.**

---

*) **Ад рэдакцыі:** Чырвоныя зоркі—організацыі дзяцей пры атрадах узростам ад 8 да 10 гадоў.

## Дзеці аб Леніну.

* * *

Ленін быў добры чалавек і вучоны чалавек. Ён вельмі любіў дзяцей і маленькіх каткоў; нават спаў каля іх. Ленін быў самы старэйшы з Карлам Марксам.

Цяпер Ленін памёр. Заместа яго засталася партыя і Рыкін і Журыновіч *). Ленін быў вельмі вучоны чалавек і так добры чалавек і ўсе яго любілі рабочыя й сяляне.

*Зося Бягун (9 гадоў).*

*) **Ад рэдакцыі.** Рыкаў і Жылуновіч.

## Што я ведаю аб Леніну.

**(З экскурсіі).**

Самае першае я бачыла, як стаяў Ленін з другім, сваім таварышам. Потым бачыла памёршага Леніна. Далей, як усе рабочыя і сяляне павесілі на сьцягох чорныя йстужкі.

Яны ўведалі пра сьмерць Леніна. Потым, як везьлі Леніна у Маскву. У Маскве Леніна несьлі ўжо на руках у вялікі дом. У гэтым доме палажылі Леніна. Да яго падыходзілі рабочыя й сяляне. Падыходзіла яшчэ Надзя Канстантынаўна Крупская.

Далей я бачыла, як пахавалі Леніна на Чырвонай плошчы ў склепе.

Каму трэба і ён пабачыць Леніна ў склепе.
Усе любілі Леніна і ўсе паважалі Леніна.
Ленін любіў і малых дзяцей. *Надзя.*



# Янка Чырвоная Зорка.

**(Апавяданьне).**

I.

Дружным строем з песьняй прышлі дзеці на экскурсію ў 2 піонэрскі атрад.

Маленькія, рухавыя дзеці І-е клясы N школы.

Іх спаткаў піонэр, павадыр зьвяна. Сказаў некалькі слоў настаўніцы і павёў за сабою экскурсантаў.

Гурбой, весела ўбеглі дзеці ў клюб. Вочы дзяцей заіскрыліся, наліліся цікавасьцю.

Піонэр сабраў дзяцей каля сябе ў гурток, пачаў знаёміць з працай піонэраў.

— Вось наш куток Леніна. Гэта агульны, усяго атраду.

Прыгожы выгляд меў гэты невялічкі куточак Леніна! Зьлева портрэты Ільліча, калі ён быў малым. Портрэты яго бацькі, маткі, братоў, сясьцёр. Пасярэдзіне, крышку вышэй, Ленін ужо сталым мужчынам. Тут яго портрэты, калі ён засядаў на зьездах, гаварыў прамовы. Тут ён ужо з бародкай, сур'ёзны.

Справа, крышку ніжэй—здымкі провадаў вялікага правадыра ў магілу.

На адным малюнку ляжыць Ільліч у труне, а над ёй схіліліся Зіноўеў, Бухарын, Рыкаў, Каменеў і другія блізкія сябры пакойнага.

На другім чуць-чуць кратаецца падвода з труной Леніна, а кругом, зьняўшы шапкі, ідуць рабочыя й сяляне. Колькі шчырага каханьня, глыбокае веры і пашаны адчувае кожны з іх да гэтага вялікага чалавека.

І многа, многа малюнкаў! На століку, тут-жа, ляжаць кніжкі аб Леніне для дзяцей.

— А ведаеце, калі сьвяткуюць працоўныя дзень сьмерць Леніна?—пытае піонэр.

— 21 студзеня!—хорам зьвініць адказ.

— Ведаеце—прагаварыў з радаснай ухмылкай на твары хлопчык з чырвоным гальштукам на шыі, і павёў да другога кутка.

— А вось куток чырвонага лётчыка. Самі мы зрабілі аэроплян.

Дзеці з захапленьнем разглядаюць малюнкі, прылады, зробленыя самымі піонэрамі.

З вялікай напружнасьцю дзіцячае ўвагі сачыў за ўсім Янка, нізенькі, тоўсьценькі хлопчык. Ён ускінуў свае чорненькія вочкі на піонэра з чырвоным гальштукам на шыі.

— Такі самы, як і я, а бойкі, колькі ведае!—міжвольна мільганула думка ў галоўцы.

— Таварыш! а грошы вам плацяць за тое, што вы піонэр?—неяк адважыўся, запытаў Янка.

Нахмурыў бровы піонэр, у вачох заіскрыўся аганёк.

— Я пашоў у піонэры, каб навучыцца працаваць у гурце такіх дзяцей, як і я сам. Па вуліцы бегаючы нічому не навучышся. Калі мне будзе 15 гадоў я перайду ў Комсамол, буду будаваць новае жыцьцё—горача скончыў ён.

Доўга разглядвалі дзеці клюб піонэраў, пасьля падзякавалі за шчыры прыём і дружна, строем вярнуліся дамоў.

II.

Прыемны сон сьніўся Янку. Быццам ён ужо піонэрам, з чырвоным гальштукам.

Многа, многа ў яго сяброў. Весела. Дома бацька гладзіць з ласкай па галоўцы, хваліць: «Маладзец, Янка, будзеш некалі чалавекам» Быццам суседнія дзеці глядзяць на яго, паказваюць пальцамі — «вунь пашоў Янка-піонэр». Ім таксама хочацца быць піонэрамі. Эх, слаўны сон!

На другі дзень, як толькі настаўніца ўвайшла ў клясу, Янка кінўся да яе.

— Ніна Васілеўна, запішэце мяне ў піонэры!

— Хіба я павадыр атраду? засьмяялася Ніна Васілеўна.

— Трэба пайці ў атрад і папрасіць, каб цябе залічылі піонэром,—параіла Ніна Васілеўна.

— Пайду, пайду, пайду... – падскакуючы пабег садіцца за скамейку Янка.

Кончыліся заняткі: Янка важна шагаў у атрад.

Адшукаў павадыра і зьвярнуўся да яго:

— Я хачу быць... стаць піонэрам. Павадыр спытаў колькі яму год, дзе ён вучыцца, чым займаецца яго бацька і сказаў, што трэба заяву пісаць.

Пагасьціўшы з гадзіну між піонэраў, Янка вярнўся дамоў.

Чым больш ён думаў аб піонэрах, глядзеў на іх працу, тым мацней яму хацелася стаць піонэрам.

III.

— Ніна Васілеўна, паглядзеце: ці добра будзе наша заява ў атрад?—запыталі Янка і Юрка ў настаўніцы назаўтра. Юрка—сябра Янкі—таксама зацікавіўся піонэрамі і разам напісалі заяву.

Настаўніца прабегла вачыма на лістку паперы. На ім было напісана вялікімі, няроўнымі і нязграбнымі літарамі:

**Заява павадыру.**

*Я Янка Кісялёў і Юрка Асіна просім залічыць нас піонэрамі II атраду.*

Чацьвер, верасень месяц 1924 г.

Пакуль Ніна Васілеўна чытала заяву, хлопцы напружана і кемка сачылі за яе вачыма.

Малайцы, добра!—ласкава зазначыла яна, аддаючы ім паперку.

Янка і Юрка глянулі адзін на другога, паглядзелі на настаўніцу, весела засьмяяліся і абодва кінуліся ў дзьверы.

Ніна Васілеўна яшчэ ўчора схадзіла да кіраўніка атраду і перагаварылася з ім.

Янка, а пасьля і Юрка былі запісаны ў атрад «Чырвоных Зорак».

IV.

Раней дзеці ня любілі Янкі. Вельмі-ж благі быў хлапец. То за сукенку хваціць, то мелам вымажа, то вадой апырскае.

А як стаў Чырвонаю Зоркаю, зусім пачаў зьмяняцца. Да заняткаў адносіцца ўважна, на перамене ня дурэе. Увесь час апавядае, што робяць Чырвоныя Зоркі і піонэры ў клюбе, паказвае малюнкі, якія сам маляваў.

На сьцяне, каля сваёй скамейкі, Янка прыклеіў плякат: «*Піонэр—прыклад для другіх дзяцей*».

І нераз здавалася яму, што Ільліч прыжмурыўшы вока глядзіць са сьцяны на гэты плякат і вельмі задаволен ім.



# Юркавы санкі.

— Юрка, га Юрка! хадзем, Юрка, коўзацца!—завуць Юрку Пятрук і Наста.

— Да ў мяне, бачыце, санак няма—паскроб патыліцу і адказаў Юрка.

— А мы-ж самі сабе зрабілі, паглядзі! Добра на іх коўзацца!

— Як вы іх зрабілі гэта?

— А вельмі проста. Мы ўзялі дзьве клёпкі ад паломанай бочкі. Гэтыя клёпкі палажылі так, што канцы іх задраліся ўгору. Потым зьверху прыбілі роўную дошку, прывязалі вяроўку і—ўсё.

— Паглядзі, пакоўзайся, добрыя санкі, ня лгу я табе—хваліўся Пятрук.

— Я сам не зраблю—адказаў Юрка.

— А мы табе паможам, потым разам і коўзацца будзем.

Дзеці пабеглі дадому. Такім-жа самым манерам зрабілі і другія санкі.

Праз паўгадзіны дзеці ўжо ўсе разам коўзаліся з гары. Юркавай радасьці ня было канца.

На ноч Юрка абліў зьнізу палазы санак вадою. Палазы замерзьлі. Самі лёталі назаўтра санкі. Ох, як прыемна было коўзацца Юрку на сваіх новых санках! Коўзаецца Юрка і пяе:

Люблю я дні марозныя,
Люблю завеі грозныя,
Люблю сьняжок, лядзяначкі,
Люблю свае я саначкі.



# Піонэры, наглядайце над зьявамі ў жыцьці прыроды.

Кожны чалавек любіць прыроду. Кожны чалавек вывучвае прыроду. Але вывучваць можна парознаму: сядзець у школе і вучыць па кніжках і, апрача кніжак, вывучваць наглядна прыроду ў самой прыродзе.

Зразумела, што і першы спосаб вывучэньня прыроды, і другі—добрыя. Але іх трэба цесна зьвязаць паміж сабою. Трэба, каб тое, што вычытаеш у кніжцы, праверыць на самой зьяве прыроды.

### За чым наглядаць у прыродзе зімою.

Наглядаваньняў узімку над прыродаю можа быць вельмі многа. Але мы будзем наглядаць за тымі зьявамі прыроды, сярод якіх кожын дзен вяртаемся.

### Вось прыблізная програма зімовых наглядаваньняў у лютым месяцы.

1. Над глыбінёю сьнегу.

2. Калі ўтвараецца ледзяная корачка на сьнягу.

3. За адлігамі, вялікімі маразамі, мяцеліцамі, галялёдзіцамі і інеем.

4. Калі пачнецца асыпка семячак елкі, хвойкі, алешыны і ліпы.

5. Калі ў першы раз закрычаць вароны павясноваму.

6. За бойкай вераб'ёў, за пабудоваю імі гнёздаў (пачнуць цягаць пух і салому).

7. За жыцьцём чачотак, сьнігіроў, дзятлоў, сініц, чыжоў і шчаглоў.

8. За сьлядамі зьвяркоў (зайцоў, белак, мышэй і інш.).

Усе свае наглядаваньні запісвайце ў ваш дзеньнік, з указаньнем месяца і чысла.

Калі вы ўважна будзеце сачыць за жыцьцём прыроды, вам вельмі лёгка будзе яе вывучыць.

### Як трэба наглядаць.

Тут нічога цяжкага няма. Усё тое, што прыкмеціце новага ў сёняшні дзень, адмячайце ў сваім дзеньніку. З гэтага можна зрабіць тыя ці іншыя вывады, можна праверыць з кніжкаю і г. д.

Возьмем для прыкладу першую нашу задачу: *над глыбінёю сьнегу*.

Выбіраем дзе-небудзь спакойнае месца і ўтыкаем у сьнег палачку з адзнакамі на ёй меры. Можна ўзяць меру ў сантымэтрах, вяршкох і цалях; цяпер наша справа кожны дзень запісаць у свой дзеньнік, якая была сягоньня тоўшча сьнегу.

Лічбы глыбіні мы запісалі ў табліцу.

Табліцу мы можам рабіць якую каму захочацца. Нам важна толькі запісаць, якая таўшчыня сьнегу была ў такі-то дзень.

У канцы месяца (або зімы, калі робім наглядаваньне праз усю зіму) мы можам зрабіць вывады з нашай запісі. Можна вылічыць, якая сярэдняя таўшчыня сьнегу за месяц, якія дні былі найболей сьнежнымі і інш., Словам, рабеце тыя вывады, якія зможаце.

Таксама будзем рабіць і іншыя наглядаваньні.

Калі спаткаеце што-небудзь незразумелае, зьвярнецеся да свайго настаўніка. Настаўнік вам паможа і дарадзіць.

**А.**



# Як карыстацца лыжамі і як на іх езьдзіць.

У першым нумары мы гутарылі аб тым, як зрабіць сабе лыжы. Цяпер нам трэба даведацца, як карыстацца гатовымі лыжамі.

Папружкі да лыжаў у нас ужо прымайстраваны. Засталося толькі прывязаць гэтыя папружкі да нагі. Робіцца гэта так: становіцца нага на лыжу і прывязваецца папружкаю ў аснове вялікага пальца ступні. Хто-ж умее ўжо езьдзіць на лыжах, то таму можна прывязваць нагу і другою папружкаю пятачнаю. Гэта папружка прымацоўваецца да першай папружкі і абхватвае пяту вышэй абсаца 4—5 см. Шырыня самой папружкі $1^1/_2$ см.



Мал. 1.

Але трэба помніць, што хто ня ўмее добра езьдзіць, то пятачнай папружкі ня раіцца. Ад гэтага могуць быць наступныя выпадкі.

1) Нельга будзе хутка выняць нагі з лыжы ў патрэбны момант.

2) Калі будзеш кідацца з лыжаў наперад, то можна атрымаць расьцяжэньне нагі ў ступні. Лепш ўсяго кідацца назад, або ў бок.

### Лыжная адзежа і абутак.

Адзежа павінна быць досыць цёплаю, лёгкаю і спраўнаю. Лепей ўсяго адзяваць доўгую вопратку. На галаву трэба надзяваць кучму з навушнікамі, каб не прастудзіцца. Рукавіцы трэба мець цёплыя з кажурыны. Абуваць можна боты, валёнкі, башмакі. Але абутак павінен быць досыць раскошным, каб ня зьмерзьлі ногі. Боты павінны добра трымацца наназе.

Перад яздою боты трэба добра вымазаць варволем, або рыбінай тлустасьцю.

### Дагляд за лыжамі.

Вясна. Лыжаў больш ня трэба. Дзе-ж мы дзенем свае лыжы? Зломім, спалім, ці што іншае? Не, мы гэтага ня зробім. Шмат яны ўзялі часу і сіл нашых. А калі так, дык будзем шанаваць свае лыжы.

Лыжы павінны быць у добрым дaглядзе, каб іх хапіла на некалькі зім.

Як толькі час язды на лыжах скончаны — маж спод лыжы бярозавым дзёхцем. Лыжы павінны добра ўцягнуць у сябе гэты дзёгаць і стаць чорнымі (у сподзе). Каб лепш уцягваўся дзёгаць, трэба лыжу падагрэць на сонцы.

Як лыжы будуць добра змазаны, выцірай іх насуха. Усё выцірай, каб мазі нідзе і ў шчылінках не засталося. Цяпер стаў лыжы ў варстат, ці распоркі (глядзі мал. № 2). Ставяцца яны ў распоркі таму, што так могуць страціць сваю правільную форму.

Калі будзеце, хлопцы, добра шанаваць і даглядаць за сваімі лыжамі, то яны будуць жыць у вас некалькі год.



Мал. 2.

### Язда на лыжах бяз палак.

У нас засталося яшчэ самае важнае пытаньне — гэта, як езьдзіць на лыжах. Пачном вырашаць і яго.

Перш усяго ты павінен умець стаяць і хадзіць на лыжах. Гэтаму навучыцца лёгка.

У вайсковым страю вучаць, каб пяты ў салдата былі разам, а наскі паасобку. У лыжным страю ногі павінны быць раўналежнымі адна ад другой ня больш, як на кулак шырынёю. Левая нага павінна быць на паўступні ўперадзе. Стан трымаць трэба роўна. Цяжар цела разьмяркоўваецца аднолькава на абедзьве лыжы. Рукі апушчаны і свабодныя.

Пачынаем язду.

Левую нагу перасоўваем раўналежна ўперад, целам нахіляемся таксама наперад. Цяжар цела пераносім такім чынам на левую нагу. Цяпер згінаем правую руку ў локці і выносім яе наперад грудзёў. Левую руку трошка прыгнутую адводзім назад. Такім чынам у нас левая нага зробіць крок уперад.



Мал. 3.

Левая нага канчае шаг.

Правую нагу не падымаем, а перацягваем да левай. Цела наша зноў выпроствaецца. Цяпер пачынаюць паўтарацца такія-ж самыя рухі, якія мы робім з леваю нагою.



Мал. 4.

### Язда з палкамі.

Стойка з палкамі гэткая самая, як і бяз палак. Палкі гострымі канцамі ўпіраем у зямлю, локці прыціскаем да бакоў, падымаем рукі троху вышэй локцяў і пастаноўка правільная (палкі становім для самых лыжаў у канцы носа нагі).

Нахіляем цела ўперад, робім крок левай на-



Мал. 5.

гою, упіраемся далей леваю палкаю і выносім уперад правую нагу і г. д.

Пры цяжкай хадзьбе раіцца рабіць меншыя і часьцейшыя шагі.

Пры хуткай язьдзе шагі трэба расьцягваць, згінаць калені і нахіляць цела. Палкі трымаюцца вышэй звычайнага і выкідваюцца, як найдалей наперад.



Мал. 6.

### Як завярнуцца на лыжах.

Злазіць з лыжаў і заварочваць іх нам ня вельмі падабаецца, бо і ў сьнег улезеш, і прывязваць трэба. Заварочвацца на лыжах так: станавіся на адной назе, падымай нос лыжы левай нагі і прыціскай задні канец яе да сьнегу. Цяпер апісвай дугу і прыстаўляй левую нагу і г. д.

Паварот у правы бок робіцца такім-жа самым чынам.

### Як падняцца на ўзвышша на лыжах.

Калі ўзвышша невялікае, то ідуць на яго звычайна, робячы невялікія крокі. Толькі ўсяго трэба лыжы ўціскаць у сьнег, каб не ад'яжджалі.

Калі вялікая гара, то ўсходзяць на яе бокам. Аднёсшы правую нагу ўверх да яе прыстаўляюць левую і г. д.



Мал. 7.

### Спуск на лыжах з горкі.

Калі горка невялікая, то ўстаўляем нашы палкі між ног і робім імі тормаз.



Мал. 8.

Калі—вялікая, то лепш усяго сходзіць бокам, як мы і падніманіся.

*П. Г.*

## Конік дзеравяны.

— Гэй, шыбчэй, мой канёк,
Конік дзеравяны!
Мала мне—кругагляд,
Мяне вабяць далі.
Мне раскошу давай,
Чыстае паветра.
Я хачу пагуляць,
Пасварыцца з ветрам.

Мне замала—чытаць,
Церабіць навуку:
Пагуляць, палятаць—
Гэй, мой конь, а ну-ка!
Неба сее сьняжком
Па бялюткім сьвету.
Ня выбрыквай, мой конь!
Бо я сьмела еду.

Піонэр Г-ко.




# Жарты, задачы і загадкі.

### Як прыдзе—запытаюся.

— Дзяўчынка, твая матка дома?
— Не, дзядзечка, вышла недзе.
— А хутка яна вернецца?
— Пачакайце, як прыдзе—запытаюся ў яе.

## Загадкі.

Пад якім кустам сьпіць заяц у часе дажджу?

За што даўней селянін зьнімаў шапку перад панам?

## Задачка № 1.

**(Дзядзькі Міхалкі).**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| А | | | Н | | | А |
| | Э | А | Е | Т | Э | |
| | Н | Н | Т | Д | І | |
| Й | У | З | С | Г | А | Ь |
| | А | Ы | Л | Ц | Т | |
| | А | Е | О | Б | Г | |
| З | | | Р | | | Ш |

Ходам каня (шахматы) прачытаць беларускую загадку і разьвязаць яе.

## Ж а р т.

Тав. доктар! дайце, калі ласка, зельля, мужык паміраe.

Доктар распытвае хворага і дае каплі:

— Вось табе. Кожны дзень давай па 5 капель.

— А як пампэ, што мне рабіць.

— Тады можна і перастаць даваць.

## Задача складаў і слоў № 2.

**(Дзядзькі Міхалкі).**

| | |
|---|---|
| 1 | 2 |
| 3 | 4 |

Замяніць лічбы такімі складамі, каб атрымаць 7 слоў, якія азначаюць:

1-2—псота (повреждение) на жывым організме;
3-4—школьна-навуковую рэч;
1-3—часьць вакна;
2-1—памяшканьне (убежище) зьвера;
3-1—лятуценьне;
3-2—няпраўду;
4-1—двое (лік).

Адгадка задач дзядзкі Міхалкі, зьмешчаных у першым нумары часопісі.

## Задачка літараў № 1.

1) Мапа; 2) Арол; 3) Поле; 4) Алей.

## Задачка літараў № 2.

Тарас Гушча. „Антось Лата“.

Разьвязаў *П. Глебка.*



# НАШ КАЛЯНДАР.



Люты.

1 Лютага—У 1905 г. адбылася ўсеагульная забастоўка ў Польшчы. Піонэры сумесна с комсамольцамі могуць адзначыць гэты дзень выступленьнямі на вечарох, сходах з дакладамі аб Польшчы і становішчы працоўных у Польшчы.

У 1920 г. вышаў у Смаленску першы нумар газэты «Савецкая Беларусь».

2 Лютага—У 1908 г. адбыўся жыдоўскі пагром у Польшчы. У гэты дзень можна паставіць даклады ў школах, хатах-чытальнях і наагул, дзе зручна, аб становішчы нацменшасьцяў у Польшчы.

3 Лютага—У 1919 г. адчыніўся першы Ўсебеларускі Зьезд Саветаў (у Менску).

4 Лютага—У 1925 г. Прэзыдыум Усесаюзнага Цэнтральнага Выканаўчага комітэту саветаў прыняў пастанову аб пашырэньні тырыторыі Беларусі. У гэты дзень можна правесьці даклады аб нацыянальнай політыцы Савецкай улады.

5 Лютага—У 1916 г. Сьмерць вядомай беларускай песьняркі і рэволюцыянэркі А. Цёткі (Пашкавічанкі).

У 1918 г. выданы дакрэт аб аддзяленьні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы.

У 1920 г. Усерасійскі Цэнтральны Выканаўчы комітэт прызнаў незалежнасьць Беларускай рэспублікі.

6 Лютага—У 1919 г. абвешчана конституцыя (асноўны закон) БССР.

10 Лютага—У 1919 г. адбылося аружнае паўстаньне спартакоўцаў (комуністаў) у Нямеччыне. У гэты дзень варта было-б высьвятліць у атрадах нямецкае пытаньне і гісторыю спартакоў, як організацыі комуністычнай моладзі.

13 Лютага—У 1897 царскі ўрад саслаў Уладзіміра Ільліча ў Сыбір.

19 Лютага—У 1918 г. выданы дакрэт аб соцыялізацыі зямлі.

20 Лютага—У 1922 г. заснаваўся Інстытут Беларускай Культуры ў Менску.

22 Лютага—У 1921 г. памёр Беларускі пісьменьнік Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі).

У 1848 г. пачатак рэволюцыі ва Францыі.

23 Лютага—Паўстаньне рэволюцыянэраў у Парыжы ў 1848 г.

25 Лютага—У 1918 г.—прыход у Менск Нямецкіх окупацыйных войск.

Атрады, зьвеньні і школы могуць самі намячаць тыя ці іншыя пляны аб адзначэньні тых ці іншых дзён з нашага каляндару. Кожны дзень можна скарыстаць для гутарак, вечароў і гд., па пытаньню гэтага дню.

# Наша чарговая праца.

## Як правесьці Ленінскі тыдзень.

Ленінскі тыдзень прыстасаваны да гадавіны сьмерці Леніна. Ён будзе праводзіцца з дваццаць першага студзеня—дню сьмерці Леніна. Піонэрскія атрады і зьвёны ў гэты тыдзень выконваюць вялікую працу. Яны афармляюць у гэты тыдзень усё тое, што зроблена і намячаюць шляхі, па якім павінны йсьці ў далейшым. Пачном па парадку, што піонэры павінны зрабіць і зробяць у Ленінскі тыдзень.

1) Піонэр заўсёды помніць, што непасрэдным кіраўніком яго зьяўляецца комсамол. Чым лепш будзе весьціся праца комсамолам у атрадах, тым мы будзем лепш выхаванымі. Комсамольцы—старэйшыя браты піонэраў. Яны больш ведаюць за піонэраў ва ўсіх справах. Трэба, каб яны свае веды ўсе цалкам перадавалі піонэрам. А для гэтага трэба што? Трэба, каб комсамол быў шчыльна зьвязаны з жыцьцём піонэраў. Вось у Ленінскую нядзелю няхай кожны атрад і падумае над пытаньнямі: Якая ў нас сувязь з комсамольскай ячэйкаю? Якія нашы адносіны з комсамольцамі? Ці не адарваліся мы ад жыцьця ячэйкі? і г.д.

Прадумаўшы ўсе гэтыя пытаньні, абгаварыўшы іх на сходзе атрад намячае плян далейшай працы ў гэтым напрамку. Дзе што было дрэнна, хварэла, на тое трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу.

У гэты тыдзень адбудзецца перадача некаторых сталейшых піонэраў у Комсамол. Над гэтым пытаньнем павінен сур'ёзна задумацца ўвесь атрад. Піонэры павінны напомніць сабе, што ўсім ім трэба рыхтавацца да комсамолу. А як яны рыхтуюцца? Можа дзе і дрэнна. Трэба ўсе памылкі паправіць і старацца іх больш ня ўжываць

Апрача сьціслага замацаваньня сувязі з комсамолам нам, піонэрам, трэба зірнуць і яшчэ на адну сувязь. Гэта сувязь з партыяй. Бяз сувязі з жыцьцём сваіх бацькоў—партыйцаў, якія маюць ужо досыць грунтоўны жыцьцёвы вопыт ува ўсялякіх пытаньнях, нам абыйціся нельга. У нас павінна быць самаю моцнаю сувязь трох пакаленьняў: піонэр, комсамол, К. П. Б.

У гэты тыдзень мы пастараемся праводзіць агульныя вечары з ячэйкамі КСМ і КПБ. Такія вечары нам многа дапамогуць у наладжаньні сувязі з ячэйкамі.

Ячэйкі з свайго боку пойдуць на сустрач нашым жаданьням. Калі мы гэтага даб'ёмся і будзем сваю працу злучаць з працай ячэек, то мы гэтым зробім вялікую працу і выканаем адзін з вялікіх заветаў Ільліча.

Унутраная праца, якую трэба правесьці атраду ў Ленінскі тыдзень, таксама ня досыць простая і лёгкая. Але-ж мы яе не баймся. Мы ўмеем працаваць пры ўсялякіх умовах.

Вось асноўныя пытаньні, якія трэба разглядзяць атраду ў Ленінскі тыдзень:

а) Праверка, як выпаўняе атрад законы і звычаі піонэраў.

в) Якую працу вядзе атрад сярод неорганізаваных дзяцей.

с) Наша шэфства.

г) Праца ў школе і шэраг іншых.

Над кожным з гэтых пытаньняў трэба стала застанавіцца і харашэнька іх прадумаць.

Скажам, возьмем хоць бы першае. Часта здараецца, што атрад праслухаў свае законы і звычаі ад дакладчыка і на гэтым кончылася. Гэтага быць не павінна. Мы па костачках павінны прагледзяць цяпер свае законы і звычаі. Прадумаем, што мы выпаўнілі, а што мо' й нечапана. А законаў і звычаяў нашых многа. Тут нам іх не пералічыць.

Падрахаваць свае дасягненьні і праверыць сябе лепш усяго на аб'яднаным сходзе піонэраў, комсамольцаў, партыйцаў. Пажадана-б, каб кожнае зьвяно, у асобе свайго прадстаўніка зрабіла такі даклад, што яно выпаўняе добра, а што дрэнна і. г. д.

Усе пытаньні, якія-б мы ня бралі-ся вырашаць, павінны быць цесна зьвязаны з заветамі нашага дарагога дзядулі Ільліча. Мы адзначым гадавіну яго сьмерці сваімі дасягненьнямі на шляху, які паказаў Ленін.

Мы гатуемся стаць сталымі Ленінцамі. Цяпер мы вучымся Ленінізму. А Ленінізм справа практычнага характару на кожным кроку.

На кожным кроку мы павінны працаваць, каб стаць Ленінцамі.

Але працаваць над тым, над чым працаваў Ленін. Ленін вёў працоўныя гушчы да сьветлага, новага жыцьця—комунізму. Ленін не давёў. Мы—маладыя Ленінцы. Давесьці працоўных да комунізму—справа наша.

*Павадыр Алесь.*

# ПОШТА.

**Я. Будзько.** Апавяданьне і верш атрымалі. Першае дадом у чарговым нумары. Верш слабаваты, ня пойдзе. Пішы больш. Самае галоўнае—чытай больш.

**Дзядзьку Міхалку.** Чаму больш ня прысылаеце. Чакаем.

**Я. Садоўскаму.** Матар'ялы атрымалі. Будзем друкаваць. Пішы. У цябе ёсць здольнасьць пісаць апавяданьні.

Запытаньне: Чаму затрымаўся ў друку першы нумар часопісі і ня высланы к тэрміну?

Адказ: Першы нумар вышаў роўна 15 сьнежня. Не разасланы па незалежным ад рэдакцыі прычынам. Шмат было сьпешнай працы ў Выдавецтве і пераплётнай майстэрні.

**Янку Гарасімовічу.** Адзін твой допіс надрукавалі. Усе іншыя скарыстаем у чарговым нумары.

**Вайнэру М.** „Наш коопэратыў" спазьнілася. Дадом у чарговым нумары. Пішы больш. Пішы аб жыцьці вашага атраду.

**Я. Будзько.** Верш не падходзіць. Слабы. Апавяданьне скарыстаем. Шлі больш.

**Я. Германовічу.** Частку вершаў скарыстаем. Пішы больш. Здольнасьць у цябе ёсьць.

Выданьне НКА БССР

Адказны рэдактар: **Рэдколегія.**

*Дадатак да часопісі*
*„Беларускі піонэр“ № 2.*

Словы А. Якімовіча.

# ПЕСЬНЯ ПІОНЭРАЎ.

Муз. В. Чэрнякоўскага.

Жвава

cresc.

Но вы дзень спат каць і дом дру жнай гра ма до ю

f

Ба ра ба на льле цца гром з пе сьняй у да ло ю ло ю

1ы раз. 2гі раз.

Хай палае сьвет агнём,
Хай гарыць старое!
Створым мы, як узрастом
Жыцьце маладое.

Кніжку, кніжку нам цяпер,
Сьвет пазнаць каб зраньня.
Сталым выдзе піонэр
У жыцьцё—змаганьне.

Рэволюцыі бацькі
Адчынілі дзьверы;
Яе кончаць юнакі,
Кончаць піонэры.

Павадыр наш—комсамол—
Мы за ім шагаем.
Наша песьня навакол
Льлецца веснавая.

Новы дзень спаткаць ідом
Дружнай грамадою.
У грудзёх бушуе гром
Песьні маладое.



Словы А. Александровіча. **БУДУ ПІОНЭР.** Муз. В. Чэрнякоўскага.

*Паходна*

*f*

БЫ Ў ДЗІ ЦЁМ ЖЫЦЬ ЦЯ НЯ БА ЧЫ Ў СТА ЛА ЛЕПШ І ЁН ЦЯ ПЕР:

ГАЛЬ ШТУК ДАЙ МНЕ НЯ Й НА ЧАЙ, БУ ДУ ДОБ РЫ ПІ О НЭР

ГАЛЬ ШТУК ДАЙ МНЕ НЯ Й НА ЧАЙ БУ ДУ ДОБ РЫ ПІ О НЭР

*канец 5-ай купл.*

*ff*

БУ ДУ ДОБ РЫ ПІ О НЭР

Падрасту і ў комсамоле
папрацую яшчэ й як!
Палюбіў я ў нас, у школе
комсамольскі маладняк.

А як вырасту, дык сільны
ў нашу армію пайду.
Беласток, Гародню, Вільну
я да Менску прывяду.

Я дзіцё машын, заводаў;
працу моцна я люблю.
Каб жылі сяляне ў згодзе,
самажнеяк нараблю.

Есьць-жа хлопцы, як вароны,—
то на плошчу, то на сквер.
А мне гальштук дай чырвоны,
буду добры піонэр!

Галоўліт № 6582 (Тыраж 4500 экз.) Менск, 2-я друкарня БДВ. зак. № 1806




# Заходняя Беларусь.

У першым нумары часопісі мы гутарылі аб тым, як жыве і працуе моладзь Заходняй Беларусі наагул. Прыгледзімся цяпер бліжэй і падрабязьней, як жывуць і вучацца дзеці ў школах Заходняй Беларусі.

Беларускіх школ у Заходняй Беларусі вельмі мала. Якія дзе ёсьць, дык і тыя хаваюцца па прыватных хатках і кутках. Польская ўлада хоча з беларускіх дзяцей зрабіць палякоў. Усе школы ў Заходняй Беларусі вядуць навучаньне толькі ў польскай мове. Вучні чужой для іх мовы ніяк не разумеюць. Скажам, калі-б да нас у школу прыехаў немец і пачаў гутарыць пасвойму, мы-б, ясна, ні цэ, ні бэ не зразумелі. А калі беларускае дзіця не разумее свайго настаўніка, той б'е яго, мучыць і г. д. Усе дзеці кідаюць школы. Нельга-ж цярпець гэткія зьдзекі. Але польская ўлада сілаю цягне да школкі дзяцей. Яна накладвае на бацькоў штраф, калі не пашлеш сваё дзіця ў школу. Бачыце, якую „літасьць“ нікчэмную выкідае ўлада для сялян.

Але ня гледзячы і на штрафы, дзеці ўсё-ж такі цураюцца школы, як агню. І дапраўды, калі хочаш, каб мецъ адарванае вуха, ці пабітую патыліцу, дык ідзі ў школу. Вось маленькі, жывы прыклад: У вёсцы Чэмяры, Слонімскага павету настаўнік-паляк (а там усе яны палякі) пакалечыў 10 дзетак. Таму адарваў вуха, той касу, таму нос разьбіў і г. д. А ўсё за тое, што дзеці не разумеюць настаўніка з яго моваю.

Сяляне гэтай вёскі прасілі, каб ім далі сваю беларускую школу. Але куды й гаварыць... Тады што-ж яны зрабілі? Яны ўзялі нанялі сабе настаўніка і патаемным чынам вучаць сваіх дзетак. І гэтак па ўсёй Заходняй Беларусі.

Неяк уперад польская ўлада была памкнулася дазволіць хоць на паперы адчыніць беларускія школы. На іх націскаў рабочы ўрад Англіі і Францыі. А цяпер усё перамянілася. Рабочы ўрад у гэтых дзяржавах зьмяніўся на ўрад крайні буржуазны. Цяпер палякі ва ўсю катуюць нашых бацькоў і братоў Заходняй Беларусі.

Якое-ж выйсьце з гэткага становішча? Адно толькі можа быць: організавацца ўсім старым і малым, і зьмесьці з твару зямлі паноў польскіх. Пакуль гэтага ня будзе, нічога не палепшыцца.

Мы, піонэры вольнае краіны Беларусі, калі нас паклічуць на дапамогу, усе, як адзін, адкажам: Гатовы!